## ВОДГУКІ ПРЫРОДЫ

### *КАСТРЫЧНІК*

Праходіць лета, цягне ззаду восень
І скарачае нашае жыццё,
Іржавымі слязамі плача ясень,
Ляціць, як слёзы, ўніз яго лісцё.
    Закрылі неба цёмным пледам хмары
    І льюцца з іх густыя ручаі,
    І залiваюць вуліцы, бульвары,
    Шыпяць і страшаць голасам змяі.
Бруд на дарогах з глінаю зялёнай
Машыны месяць з дажджавой вадой,
Яны ўсе едуць доўгаю калонай
З людзьмі, з таварам з розных гарадоў.
    Чароды птушак між аблокаў з крыкам
    Паспелі ўжо ад нас даўно ўцячы,
    А поле з бульбай нішчаць з лесу дзікі,
    Сялянам не даюць спаць уначы.
Ды часта сонца разганяе хмары
І бачым лета бабіна ўвесь дзень,
Кудысь яно ляціць па тратуары
І павуцінне ззяе, як прамень.
    І зноў, як летам, ажываюць паркі,
    Вясёлую там бачым дзетвару,
    І як старэчы наліваюць чаркі,
    Як Іх з віном падносяць угару.

## АДЛЯТАЮЦЬ ЖУРАЎЛІ

На яркае неба гляджу я з турботай,
Бо бачу на ім, як ляцяць жураўлі,
На поўдзень спяшаюцца з родных балотаў,
Пакінуўшы нашы лугі і палі.
Мне смутна,бо чую іх крык у блакіце,
Іх радасць ўгары, што ляцяць у цяпло,
Па зверху вядомай ім толькі арбіце,
На якой вельмі доўга ўжо іх не было.
Бо з імі ўцякае ад нас зусім лета,
Яны забіраюць з сабою яго,
Бо ветры ў нас знойдуць зімой сваю мэту,
І могуць нагнаць да нас гурбы снягоў.
Бо прыйдзе за імі да нас хутка холад,
Зямлю ўсю пакрые навокал імгла,
Бо ўбачу ў дажджы і ў тумане мой горад,
Як шэрань наўкол на яго налягла.
А ў горадзе буду ў дажджы і ў марозы
Сядзець за сцяною, бы недзе ў турме,
І слухаць з эфіру пагоды прагнозы,
І вершы пісаць аб суровай зіме.
Калі паказалі на срэбным экране
Фільм мною забыты: ,,Ляцяць жураўлі”,
Аб грознай вайне і любоўным рамане,
Прыпомніў ён мне, што пражыў я калісь.
Прыпомніў ён песні, якія калісьці
Спяваў я з салдатамі аб жураўлях,
Як гналі наперад на фронт нас кудысьці
Па сцежках чужых ад айчыны здаля.

## У ВЫРАЙ ПАЛЯЦЕЛІ ПТУШКІ

У вырай жнівень выгнаў рана
Халодным ветрам і дажджом,
На поўдзень птушак караваны
Ад нас з іх сціплым багажом.
Спярша настрашыў жнівень буслаў
І першымі яны ўцяклі,
Пасля за імі з крыкам шустра
Спяшылі ў хмарах жураўлі.
Цямнела неба ад крылатых
З балот ляцеўшых жураўлёў,
Іх голас гучны і заўзяты
Далёка чуўся між палёў.
У чэрвені мы не пачуем
Нідзе ўжо голасу гракоў,
Шукаюць дзесь зямлю другую
І ў глебе іншых чарвякоў.
Зязюля ў верасні таксама
Ад нас на поўдзень уцячэ,
За год у чэрвені, як дама,
Нам будзе кукаваць яшчэ.
І толькі ластаўка ўвесь жнівень
Нам не пакінула сяла,
Перачакала холад, лівень
І ля кастрычніка ўцякла.
Забылі мы ўжо песень тоны,
Калі спявалі салаўі…
На дрэвах каркаюць вароны,
Шчабечуць побач вераб’і.

## ГУЧНЫ ВЕЦЕР

Прыляцеў у горад ноччу гучны вецер
І да ранка ў вокны стукаў і стагнаў,
Скардзіўся галосна на бяду на свеце,
У дзяржавах многіх, дзе ідзе вайна.
,,Там штодзень, як мухі, паміраюць людзі
Ад насілля, голаду, ад куль і ран,
Бо да ўсіх страляюць джыхадысты ў грудзі,
Хто ў іслам не верыць і ў яго  Каран.
І  таму, хто верыў, толькі быў шыітам,
Галаву  адрэзаў грозны джыхадыст,
Спачуванне мае толькі да сунітаў,
Іншых ён мардуе  ўсіх, як тэрарыст.
Твораць там яны Ісламскую Дзяржаву,
З часткі Сірыі, залезлі ў Курдыстан,
Страшаць, што зальюць увесь Ірак, як лава,
А пасля Ізраіль,Турцыю, Ліван.
Аж спужаўся дзядзька Сэм з-за акіяна,
Падабраў  сабе ў Еўропе  сябрукоў,
І на джыхадыстаў выслааў, як груганаў,
Многа самалётаў, ад іх льецца кроў.
Льецца кроў таксама ў ўсходняй Украіне
Бо ідзе там грамадзянская вайна.
Там штодзень людзей нявінных многа гіне”-
І заплакаў гучна вецер ля акна.
Без цябе я знаю, ты плаксівы вецер,
Што вайна стварае для людзей бяду,
Да яе варожасць пхае іх на свеце,
Лекаў ад яе нідзе я не знайду.

## НАВАЛЬНІЦА

Гарачыня ўжо ўсім абрыдла,
Дажджу чакалі ўсе наўкол,
І раптам хмары скачком выдры,
Закрылі сонца арэол.
    З іх сыпануў не дождж чаканы,
    А моцны лівень, град густы,
    Яны з зеніту апантана
    Ламалі дрэвы  і кусты.
І з чорнай хмары бліскавіцы
Ляцелі ў грукаце грамоў,
Дрыжэлі ў вокнах аканіцы
І сцены гарадскіх дамоў.
    Калі град сціх, то ручаямі
    Лілася з хмар уніз вада,
    І ў бліскавіцах над дамамі
    Грамоў гучала чарада.
І раптам трэск пачуў я злева...
Я хутка глянуў у акно --
З карэннем вецер вырваў дрэва,
І за сцяной ляжыць  яно.
    Амаль гадзіну без супынку,
    Схаваны ў доме за сцяной,
    Я чуў навальніцы лезгінку
    Прыгожай летняю парой.
Забраў раптоўна хмары вецер
І разам з імі дзесь уцёк,
І сонца яркае ў зеніце
Смяецца зноў да нас здалёк.

## ВОДАР ЧАРОМХІ

Мяне заўжды чаромхі вабіў водар,
Я ў вёсцы чуў яе духмяны пах,
У промнях сонца летняю пагодай
Ад белых гронак кветак у кустах.
Расла яна амаль пры кожным доме,
І летам ззяла яркай белізной,
І ажыўлялі ўсіх пры цяжкай стоме
Пасля ўсёй працы ў полі летняю парой.
Між белых гронак бавіліся птушкі,
Нас цешылі іх песні цэлы дзень,
А вечарам дзявочыя частушкі
Нас суцяшалі ў летнюю духмень.
Чаромхі водар, спеў дзяўчат і зоры
Спакой і радасць неслі ў вечары,
А потым месяц залаты, бадзёры
Вясёла прыглядаўся нам згары.
Чаромхі водар, родны кут, раздоллі
Распешчвалі мяне ў сяле тады,
Пакуль не трапіў я ў іклы няволі
У час вайны амаль на тры гады.
Чаромхі водар чуў я на чужыне
Там сапраўды ў сваіх чароўных снах,
Яго я ўспомніў не ў адной краіне,
Туды дзе кінула мяне вайна.
Калі дамоў прыйшоў я ў дзень зімовы,
То не сустрэў чаромх я ля дамоў,
Згарэлі ўсе з дамамі да асновы,
У дні пажараў ад вайны грамоў.



1974 год. Грэцыя. Дзмітрый   Шатыловіч у Дэльфах.

## КРЫШТАЛЬНАЕ СВЯТЛО

З нябёсаў сёння ранкам над сялом,
Над лугам, полем, шэраю дарогай
Заззяла ўраз крыштальнае святло -
Яно было, як пацалунак Бога.
Чароўнае крыштальнае святло
Фантанам промняў, як для фотаздымкі,
Паволі неба знізу абняло
У радужныя цёплыя абдымкі.
З усходу плыў уверх крыштальны круг,
З-за лесу цёмнага, як з-за парога,
І ў фарбы радугі змяніў ён луг,
Ды азалоціў поле і аблогі.
Уцешыўся святлом тым журавель,
Бо крык яго пачулі аж у вёсцы,
А сонца дыск уверх, як карабель,
Плыў па даўно ўжо выбранай дарожцы.
Крык жураўля ўсіх птушак абудзіў,
Зайграла хутка звонкая капела:
За лугам граў птушыны калектыў,
Навокал музыка яго звінела.
Як згінула крыштальнае святло
У яркім крузе сонечных праменняў,
Уцёк з ім холад, і прыйшло цяпло
Туды, дзе ён хаваўся доўга ў ценю.
Тады раптоўна вёска ажыла,
Пачуўся дзетвары вясёлы голас,
Якая ранкам з сумкамі ішла,
Праз вёску, дзе іх стаяла школа.

## НОЧ КУПАЕЦЦА Ў МЕСЯЦА ПРОМНЯХ

Ноч купаецца ў месяца промнях,
Заліваюць яны лес, палі,
Месяц ззяе чароўнаю поўняй,
Заглядае ў закуткі зямлі.
Як ліхтар, ён плыве ніжэй зорак
Па бліскучаму небу без хмар,
Як начны карабель дзесь па моры,
На якім палыхае пажар.
Птушкі ў лесе сядзяць ціха ў гнёздах,
Бо баяцца пражэрлівых соў,
Нават зайцы хаваюцца борзда
Між густых і высокіх кустоў.
Свеціць золатам купал царкоўны,
Між густых і высокіх дзвюх хвой,
А на ім залаты крыж спакойна
Аглядае сяло за ракой.
Заглядае ў іх вокны звысоку,
Вельмі рады, што людзі жывуць,
Ранкам звон зазвініць ім здалёку,
Каб прыйшлі памаліцца ў царкву.
Вось тады я ішоў па дарозе
У абдымках святла з вышыні,
Пры знаёмай на полі бярозе
Я сустрэў ездака на кані.
Памахаў ён здалёк мне рукою
І паехаў на пашу на луг,
Конь яго ў промнях з неба за мною
Выглядаў, як рабочы біцюг.

## ПАХОДКАЮ ЦІХАЮ ВОСЕНЬ

Паходкаю ціхаю восень
Да нас падкрадаецца ўжо,
Шукае ў іржышчах калосся,
І моцна іх топча дажджом.
З халодным сябруючы ветрам,
Зрывае лісты з розных дрэў
І бавяцца імі з паветрам,
Выказваюць радасць і гнеў.
Завыюць яны, як гіена,
Застукаюць нам у акно,
У клуні панюхаюць сена,
Ачысцяць са смецця гумно.
І холад пакіне нас з хмарай
І з ветрам на тыдзень ці два,
І сонца на нас круглым тварам
Глядзець будзе, як каравай.
Пабачым мы бабіна лета,
Зялёную нават траву,
І ў парках яшчэ многа кветак,
І птушак між дрэў наяву.
Ды восень халодныя ночы
Падкіне нам хутка ўсур'ёз,
За імі пачне бодра крочыць
Штодзень непрыемны мароз.
Нам неба закрыюць зноў хмары,
Пальюцца з іх часта дажджы,
Заіграюць нам ветраў фанфары,
Аж дом наш ад іх задрыжыць.

## ГЕРАНІ

Зімой у лоджыі праз шыбы
Глядзяць герані дзве на снег,
На ледзяныя ўнізе глыбы
І на машын  далёкі бег.
	І дзівяцца, што за сцяною,
	Скаваў ваду, зямлю мароз,
	Што бачаць белы снег зімою,
	Што дрэы ўпалі ўсе ў гіпноз.
У цёплай лоджыі прыемна
Глядзець ім вонкі за акно,
І бачыць вуліцы штодзённа
Адным вялікім палатном.
	Бо ў снах аб Афрыцы Паўднёвай,
	Дзе продкі іх калісь жылі,
	Не сніцца ім пейзаж зімовы,
	Ні лёд, ні снежныя палі.
Таму, калі вясна настане
І снег загіне за акном,
Заззяюць кветкі зноў гераній
Чароўным радужным агнём.
	І днём, і ноччу, ў час світання
	Іх факелы мне будуць ззяць,
	Мае індыйскія спаткання
	Яны пачнуць прыпамінаць.
Яны цвілі мне ў агардзе,
Іх кветкі бачыў за акном,
Пры яркай сонечнай пагодзе
Зімою ззялі  і вясной.

**АСЕННІ ЧАС**

Нябёсы вельмі часта сталі плакаць,
Густыя слёзы сыпаць на зямлю,
Часцей у садзе можна ўбачыць шпака,
Што слухае, як вецер вые блюз.
Злілася ў полі цішыня з імглою
І акружылі навакол лясы,
Здалёку толькі чуем над ракою
Вясёлыя людскія галасы.
Сядзяць там вудары і ловяць рыбы,
Хоць дождж імжыць на іх з нябёс,
Яны глядзяць у ваду, як у шыбы,
Ці не паявіцца дзесь рыбін нос.
Усё цяпер наўкол цячэ няспешна,
Пайшло вяселле лета ў забыццё,
А многа птушак уцякло паспешна
Далёка ў вырай - там пазнаць жыццё.
А тыя, што засталіся жыць з намі,
У лесе ноччу моўчкі між галін
Сядзяць, чакаюць, аж зноў над палямі
Заззяе сонца, быццам цэпелін.
Тады яны раптоўна ажываюць,
А разам з імі зверы і лясы.
Ды салаўі ўжо нам не заспяваюць,
Свае забралі ў вырай галасы.
Ды чуем мы, як каркаюць вароны,
А ў парках шчабятанне вераб'ёў,
І ўбачым многа птушак на загонах,
Як бегаюць, шукаюць чарвякоў.

## ВЕЧАР НАД ВОЗЕРАМ

Дыск сонца коціцца на захад,
І вось зышоў зусім за гарызонт,
І зоркі з цёмры выбеглі са страхам,
І занялі нябесны парасон.
А возера, як люстра адбівае
Чароўны вобраз неба, бляск яго,
Яно ад неба бляску ярка ззяе
Плеядай яркіх зорак, як агонь.
На ўсходзе хутка з цёмнай стужкі лесу
На неба выплыў светлай хмары цень,
З яе раптоўна выбег яркі месяц
І ясна ўсюды стала, як у дзень.
Пяшчотнае паўднёвае паветра,
Прыемны шум халодных ціхіх хваль,
А на вадзе, не чуць павеву ветру,
Вада блішчыць, як у кінжала сталь.
На возеры здалёк я ўбачыў лодку,
Як з музыкай плыла яна між хваль...
Ды адплыла праз нейкі час кароткі,
А з ёй заціх іграючы раяль.
І цішыню я зноў пачуў навокал,
Аціхнуў нават хваль спакойны шум,
Смяяўся толькі месяц круглашчокі,
Каб зняць з маёй душы журбу і сум.
Не чуючы ні холаду, ні жару,
Ляжаў я ў бляску радужных свяціл,
Гладзеў на воды возега і марыў.
Я тут да працы набіраў зноў сіл.

## БУРАН НАД ВОЗЕРАМ

На возеры Снярдвы наскочыў раптоўна
На кацер наш з гулам буран ліхадзей,
І трэсці гвалтоўна стаў кацерам скромным,
Высокаю хваляй абліў ён людзей.
Падняў мітусню ён на кацеры нашым,
Пачуліся крыкі жанчын і дзяцей,
Выццём сваім дзікім іх больш яшчэ страшыў,
І дзьмухаў у твар ім, як жулік. круцель.
Аднак праваднік іх усіх супакоіў,
Прасіў іх: ,,Трымайцеся лавак мацней!”
Хоць вецер далей не даваў нам спакою,
Мы слухалі подых бурана смялей.
Хоць страшыў далей нас істэрыяй дзікай
І хвалямі нас абліваў, як дажджом,
Не чуў ён на кацеры плачу і крыкаў,
Пабачыў, што страх нас пакінуў ужо.
Тады адвярнуўся буран маментальна,
Пакінуўшы нас, ён на захад пабег,
Па возеры кацер плысці стаў нармальна,
Пачуўся на ім толькі радасны смех.
Да прыстані кацер паплыў нам спакойна
І ззяла, як люстра, навокал вада,
І толькі кільватэр бурліў непрыстойна
За кацерам ззаду, па нашых слядах.
Мы мокрымі з кацера выйшлі на прыстань,
Шчаслівыя, што не ўтапіў нас буран,
Гарачае сонца на небе празрыстым
Блішчэла ўгары, як чароўны брыльянт.

## ВОСЕНЬСКІ ВЕЦЕР

Прыляцеў да нас з захаду восеньскі вецер,
Загудзеў, загрымеў ён, як моцны буран,
І хоць яркае сонца на небе нам свеціць,
Ён нам з цынкавых дахаў зрабіў барабан.
Выбіваў на дахах ён гучныя такты,
І праз цэлую ноч ён нам спаць не даваў,
Чулі: робіць на вуліцах часта тэракты,
На ахвяры чакае ён, быццам удаў.
Ён ламаў нам прыгожыя розныя дрэвы,
Прыгнятаючы імі машыны, людзей,
За акном чуў яго вельмі грозныя спевы,
Знак даваў, што да нас прыляцеў ліхадзей.
З небасхілу прагнаў усе воблакі, хмары,
Бо ён любіць пры сонечных промнях глядзець,
Як спяшаць да тэрактаў наўкол санітары,
І, як птушкі пры ветры баяцца ляцець.
Ён не любіць, каб дрэвы былі дзесь з лістотай,
Абрываў іх з галін, па траве гнаў лісцё
І па парках пустых ён гуляў сам з ахвотай,
Заганяў там вавёрак у дуплы выццём.
Бо калі б збудавалі ў нас дзесьці на пляцы
Пяць ці шесць генератараў – ветракоў,
Запрглі б мы яго, ліхадзея, да працы,
Каб электаэнергію даў з правадоў.
Ён шнырaў і пужаў ноч і дзень па сталіцы
Нарабіў многа шкодаў навокал і ўцёк,
І тады пачалі ўсе наўкол весяліцца,
Перажыўшы пагрозу ад ветру і шок.

## СКАРГІ ЛЕСУ

Лес чэрвеньскі нас сёння прывітаў
Прыемным холадам і спевам птушак,
Калі ўвайшлі мы, нешта нам шаптаў,
Ды ў шэпце скаргі чулі нашы вушы.
Ён скадзіўся, што нішчаць тут яго,
Калі прыходзяць людзі на паляны,
Распальваюць на іх заўжы агонь,
І водку пьюць, буяняць хуліганы.
І паляць ягаднікі, што растуць наўкол,
Ламаюць з дрэў прыгожыя галіны,
У дуплах нішчаць гнёзды многіх пчол,
Гудзяць паблізу гучныя машыны.
Скідаюць часта гнёзды птушак з дрэў,
Ці з гэтых гнёздаў забіраюць яйкі,
Выказваюць да птушак дзікі гнеў,
Прыехаўшыя гарадскія шайкі.
Лісткі дрыжалі плакаўшых асін,
Якіх яны тут многа наламалі,
Чарніцаў ягадніка і малін,
Якіх яны без жалю патапталі.
Мы не маглі суцешыць бедны лес,
Мог вецер прынясці яму пацеху,
Павевам адганяў ад смутку стрэс,
Так, каб бліжэй было яму да смеху.
Не скардзіліся птушкі тут між дрэў,
І між асін і між бяроз і сосен,
Усюды чуўся іх вясёлы спеў.
Іх будуць чуць, пакуль не прыйдзе восень.

## СВІТАННЕ ЛЕТАМ

Ззяе зара над палямі,
Ціха світанне ідзе,
Месяц не свеціць над намі,
Зорак не відна нідзе.
 Сонца выходзіць з усходу,
 Будзіць прыроду наўкол,
 Кветкі даюць асалоду
 Роям абуджаных пчол.
Будзяцца птушкі на дрэвах,
Скачуць ужо між галін,
Чуць іх цвырканне і спевы
З шумамі сосен, ялін.
 Будзяцца ў вёсках сяляне,
 Дзеці шыкуюць да школ,
 Будзіцца ксёндз у сутане,
 Хутка бяжыць у касцёл.
Кветкамі ў сонечным ззянні
Рдзее прыгожа ўвесь луг,
Рдзеюць яны на паляне,
Хіба, што з’еў іх біцюг.
 Сонца збудзіла прыроду,
 Сонца збудзіла людзей,
 Рэчка ў такую пагоду
 Носіць гусей на вадзе.
Скончыўся ўжо час світання,
Сонечны ранак прыйшоў,
Людзі свае ўсе жадання
Выканаць хочуць з душой.

## МЯЦЕЛІЦА

Вось ранкам восенскім раптоўна
Да нас мяцеліца прыйшла,
Ляцяць сняжынкі, як бавоўна,
І ўсё фарбуюць дабяла.
Мільёны радужных сняжынак
Упалі з неба на зямлю,
Бліскучай белаю дружынай
Траву закрылі і раллю.
Яны прыкрылі тратуары
І дахі ўсіх наўкол дамоў,
Ляцяць з вялікай шэрай хмары,
Без бліскавіц і без грамоў.
Яны прыселі, як пялёсткі,
Паблізу на галінах дрэў,
Халодны ветрык дзьме ад вёскі,
Варушыць іх яго павеў.
Як дзеці выбягуць са школы,
То снежкамі пачнуць кідаць,
Наўкол пабачым шум вясёлы,
Бо будуць цешыцца, крычаць.
І прыгатовяць потым санкі,
На іх з’язджаць з якойсь гары,
Бо снег - вясёлыя гулянкі
Нясе заўжды для дзетвары.
І толькі старцам снег то – гора,
Саджае іх, як у турму,
Бо мусяць аглядаь з пакорай
Праз вокны снежную зіму.

**КАЛЕЙДАСКОП ЖЫЦЦЯ**

У жыцці, як у калейдаскопе,
Нам змяняецца ўсё кожны дзень,
Час наперад бяжыць у галопе,
Перашкоды мінае, як цень.
Часта маем мы дождж і пагоду,
З неба ззяе святло, потым змрок,
Сустракае нас шчасце з нягодай,
Пахвала і ганебны папрок.
Адчуваем мы ранкам здароўе,
А пад вечар баліць галава,
Ранкам нам не гразіць беспрацоўе,
Потым страшыць яно, як сава.
Сэрца ранкам у нас б’ецца роўна,
Потым чуем мы боль у грудзях,
Каб яно не замоўкла раптоўна
Адчуваум мы цэлы дзень страх.
Мы не ведаем, што будзе сёння,
І ці ноччу нам хмары крыло,
Не закрые ўсю месяца поўню,
Каб усюды ўсім цёмна было.
Нам змяняее жыццё безупынна
Наш таемны загадкавы лёс,
Ён да славы дае нам трампліны,
Ці згары нас кідае ў адкос.
Ды без нашай яму дапамогі
Лёс не можа жыцця нам змяніць,
Трэба з ім пашукаць дзесь дарогі,
Каб дайсці да жаданых крыніц.

## ПАГОДА Ў СВЕЦЕ

Мы маем сёння пекную пагоду,
Бо ў лютым сонца грэе, як вясной,
А чую мучаць цяжкііяі нягоды
Людзей на свеце, часта за мяжой.
Прайшоў цыклон страшэнны ў Сахаліне,
Там дрэваў сотні паламаў буран,
Звярыны многа ў гурбах снегу гіне,
І востраў затапіў густы туман.
Не пакідаць кватэр урад там заклікае,
Забаранілі высылаць дзсяцей да школ,
Бо небяспечная завея не сціхае,
Засыпала дарогі ўсе наўкол.
І раптам я пачуў, што ў Закапанэ
Шалёны горны вецер завітаў
І ў горадзе  з дамоў ён сёння рана
Раптоўна многа дахаў пазрываў.
І льецца дождж на сорваныя дахі
І голасна смяецца ён з людзей,
Што бегаюць вакол дамоў са страхам
Па лужынах, па дажджавой вадзе.
А з Англіі пачуў я, што паводка
Ля мора многа вёсак заліла,
Што там сяляне мусяць плываць лодкай,
Каб дзесь вадой дабрацца да сяла.
Я чую іх няшчасце і жадаю,
Каб хутка ім змяніў пагоду час,
Жадаю ім  пагоды , як у раю,
Каб сонца грэла іх, як сёння нас.

## МІНАЎ ДЗЕНЬ ШАЛЁНЫ АД СКВАРУ

Мінаў дзень шалёны ад сквару,
Я ў  садзе пад грушай сядзеў,
Як гоніць авечак атару
Пастух я здалёку глядзеў.
Я бачыў, ён змучаны скварам,
Ішоў,  як жабрак па грудзе,
Павесіўшы торбу на карак,
Свісток на худой барадзе.
Свісцеў ён свістком на авечак,
Каб беглі хутчэй у хлявы,
Вітаў ён сялян пры сустрэчы
З усмехам кіўком галавы.
І доўга няслося бляянне
Авечак і гукі свісткоў,
Пакуль не пачуў я мычання
Прышоўшых дзесь з пашы кароў.
Тады чуў я стукаты вёдраў
Даярак ля блізкіх хлявоў,
І брэхі сабак вельмі гордых,
Ля многіх вясковых дамоў.
Схавалася сонца за ўзгоркам
Паказвала толькі рубец.
На небе з’явіліся зоркі,
І дня прыбліжаўся канец.
Тады толькі выйшаў я з саду,
Да хаты ўжо ў цёмры іду,
Пры хаце я бачу лампаду,
Пры ёй мух жывых чараду.

## ПЛАКАЛА РАБІНА

Жмурыца дзень у мяне за акном,
Гасне асенняя вуліца,
Плача рабіна пад злосным дажджом,
Мацна ад ветру сутуліцца.
Вецер заўзятасцю мучыць яе.
Гне ён яе, не сароміцца,
Стогны яе чуюць вокны мае,
Скардіцца ў іх, як палонніца.
Гнецца рабіна і ўзад, і ўпярод,
Быццам паклонамі моліцца,
Вецер шуміць, як салдатаў узвод,
Чуе яго ўся ваколіца.
Маланка раптам заззяла агнём
З неба закрытага хмарамі,
Гнеўна гудзеў над ваколіцай гром
З рокатам, з грознмі ўдарамі.
Сціхнуў шум ветра па громе зусім,
Маланкай яркаю спужаны,
Нават і дождж дзесь уцёк разам з ім,
Толькі пакінуў нам лужыны.
Хутка рабіна, абтросшы ваду
З тонкіх галін, аглянулася -
Бачыць, што нехта ўжо выгнаў бяду,
Раптам шчаслівай пачулася.
Цёмна зусім у мяне за акном,
Вуліца толькі іскрылася,
Цёмра закрыла рабіну чахлом,
Ноччу яна з вачэй скрылася.

## ШКВАЛ

Калісь паблізу Гімалаяў
Сустрэлі мы шалёны шквал,
Буран ляцеў з мяжы Кітая,
Патокам ліўся сель са скал.
    Дождж ракатаў страшэнным гулам,
    Дрыжэлі дрэвы і зямля,
    Здавалася, што зеў акулы
    Нас хоча паглынуць здаля.
Буран хацеў падняць нас з джыпам
І ў прорву кінуць, быццам мяч,
Дарогу ўсю пяском засыпаў,
Трубіў, як на вайну, трубач.
    Заўважыў наш шафёр хаціну,
    Амаль пад самаю гарой,
    Нас джыпам да яе падкінуў,
    Калі пачаўся градабой.
З непальца беднаю сям’ёю
Чакалі мы гадзіны тры,
Аж сціхне вецер з градабоем,
І неба ўбачым  з-за гары.
    І паказаўся прад вачамі
    Вясёлкі нечаканы круг,
    Ззяў ён чароўна над гарамі
    Дзесяткамі бліскучых дуг.
Уцешыліся, што ў хаціне
Мы прачакалі ўжо бяду,
Шафёр па старай каляіне
Вярнуў нас зноў у Катманду.

## ВІТАЕ РАНКАМ СЁННЯ НАС ВЯСНА

Вітае ранкам сёння нас вясна
Дажджа па сценах гучным стукатаннем,
Дрыжэннем шыб у кожнага акна,
І за сцяною ветра скавытаннем.
Закрылі неба сотні чорных хмар,
Вада з іх льецца, як з фантана,
Плыве на вуліцу, праз тратуар,
Да сцёкаў уліваецца старанна.
А дрэвы стогнуць, мучыць вецер іх,
Яму ў забаве памагаюць хмары,
Ён цешыцца паміж галін густых,
Што з дрэў зрабіў для здзек свае ахвяры.
Ён часта скочыць з дрэваў на людзей
І вырывае з рук ім парасоны,
Смяецца, што бягуць дзесь па вадзе,
Хаваюцца ў трамвайныя вагоны.
Смяецца ён, калі дзесь пешаход
Абліты будзе лужай з самахода,
Калі да працы ў дождж бяжыць народ,
Глядзіць на іх і чуе асалоду.
Я цешуся, што я пенсіянер,
Што ў дождж не трэба мне спяшыць да працы,
Што мне вада не льецца за каўнер,
Што ў доме цёпла, лепш чым у палацы.
Што не патрэбны мне ўжо парасон,
Бо не іду на двор, калі пужае слота,
Гляджу на дождж ці снег з сваіх акон,
Калі прыйдзе мне паглядзець ахвота.

## ШЧАСЛІВЫЯ МЫ, БЕЛАРУСЫ

Шчаслівыя мы,  беларусы,
Што не пужае нас цунамі,
Што нас не нішчаць землятрусы,
Што не дрыжыць зямля пад намі.
    Хоць маем мы свае стыхіі,
    Як буры, сушы і паводкі,
    Яны менш страшныя і злыя,
    Аб іх паведамляюць зводкі.
Паведамляюць аб тэрактах
З рук мусульманскіх тэрарыстаў,
Аб небяспечных недзе трактах
Усіх шафёраў і турыстаў.
    І папярэджвааюць аб горы.
    Якое нас яшчэ чакае.
    Што быццам дзесь падскочыць мора
    І хваля нас залье марская.
Пужаюць нас, што пацяпленне
Леднік на полюсе растопіць,
Вада з яго ў адно імгненне
Краіну нашу ўсю затопіць.
    Пужаюць нас метэарытам,
    Які ляціць да нас з ахвотай...
    Сваім цікавімся мы бытам
    Цяпер, не тым, што будзе потым.
Мы цешымся, што грамадзяне
У нас не гінуць ад цунамі,
Або, як ноччу парыжане.
Што не дрыжыць зямля пад намі.

## СУСВЕТА ЗОРКІ ЯРКА ЗЗЯЮЦЬ

Сусвета зоркі ярка ззяюц,
На нас глядзяць праз ноч згары,
І запрашаюць нас да раю,
Які для нас там Бог стварыў.
Так верылі калісьці людзі,
Так вераць многія цяпер,
Што іх душа па смерці будзе
На небе між анёльскіх сфер.
Бо дзесь знаходзіцца на небе
Для добрых душ прыгожы рай,
Не будуць марыць там аб хлебе,
Іх будзе цешыць боскі гай.
Ужо касмічныя ракеты
У неба лётаюць штогод,
Шукаюць дзесь такой планеты,
Дзе мог бы жыць якісь народ.
Зрабілі здымкі ўжо Плутона
Нідзе там месцаў не знайшлі,
Дзе жыць маглі б без камбінзона
Таксама, як мы на Зямлі.
Па Марсе ходзяць марсаходы
І рыюь глебу без чуцця,
Стараюцца знайсці мікробы
Ці іншыя сляды жыцця.
Не напаткалі там нічога,
Каб намякала, што калісь,
Слядоў жыцця дзесь знойдуць многа,
Няма надзеі, каб знайшлі.

## НОЧ МЯНЕ ЗАСТАЛА НА ДАРОЗЕ

Ноч мяне застала на дарозе,
Ярка зоркі ззялі мне ўгары,
Птушка шэрая драмала на бярозе,
Іншыя ўцяклі ўсе ў гушчары.
Спалі дрэвы, травы, і расліны,
А цвыркун галосіў у траве,
Вецер часта штурхаў у галіны,
Падымаў пылінкі ў мураве.
Зоркі асвятлялі мне дарогу,
На якой цямнеў ад дрэваў цень,
Раптпм побач я заўважыў рогі,
На мяне між дрэў глядзеў алень.
Цэрквы купал паказаўся збоку,
Значыць, блізка мне было дамоў,
Крыж яе над дрэвамі высока
Усмяхаўся да мяне без слоў.
Пры царкве шаша вяла да вёскі,
У якой і быў мой родны дом.
І ліхтар заззяў, як анёл боскі,
Асвятліў свет радасным святлом.
Месяц пасылаў мне прывітанне,
Усміхаўся яркаю шчакой,
Я махнуў яму на расставанне
Да гары паднятаю рукой.
І калі я спаў ва ўласным доме,
Ён згары ўсю ноч за ім сачыў,
Каб ніхто праз ноч у ім свядома
Для мяне там крыўды не зрабіў.

## ЖАВАРАНКАЎ ВЕЧАРАМ НА ПОЛІ

Жаваранкаў вечарам на полі
Слухаў я на лузе ля сяла,
Карканне варон дзесь на таполі,
Вушы залівала, як смала.
Жаваранкаў радасныя бомы
Заглушыла карканне варон,
Многа іншых гукаў невядомых
Да мяне плыло з усіх старон.
Бо пачуў я трэскі самаходу
На дарозе бліска за сялом,
Галасы жанчын дзвюх з агароду,
Зашумела ястраба крыло.
Замычала ля хлява авечка,
Запішчла побач ёй свіння,
Я падняў тады з зямлі вуздэчку
І пайшоў на пашы ўзяць каня.
Конь мой спутаны хадзіў паблізу,
Скубаў сакавітую траву,
На вуздэчку спаглядаў ён знізу,
Не хацеў паднесці галаву.
Наканец паднёс уверх ён пысу,
Ехаць на сабе дазволіў ён вярхом,
І завёз мяне ён хутка рассю
У свой хлеў, а блізка быў наш дом
Ён у хлеў пайшоў сам без прымусу,
Бо пачуў у жолабе авёс,
Пры ядзе не чуў ён мух укусаў,
З захаплення фыркаў цэраз нос.

## ХАЛОДНАЯ ВЯСНА НАС СУСТРАКАЕ

Халодная вясна нас сустракае
Амаль што пры канцы сакавіка,
Дождж кожны дзень нас аблівае,
Гразіць паводкай поўная рака.
Як вые вецер чую за сцяною,
Аж шыбы ноччу мне ў акне дрыжаць
Зусім не пахне на двары вясною,
Вясну ўжо надаела нам чакаць.
Была ўжо ўчора вербная нядзеля,
І будзе Пасха ўжо на першы май,
Плывуць па небе хмары, як кудзелі,
Вада штодзень з іх льецца, як ручай.
У вазах у людзей ляжаць пісанкі,
Яны прыгожа ззяюць на сталах,
Вісяць на вокнах чыстыя фіранкі,
У вёсках і таксама ў гарадах.
На Пасху хочам мець прыемную пагоду,
Каб згінуў дождж і стала ўсім цяплей,
Тады ў царкву прыедзе больш народу,
На Пасху будзе людзям весялей.
Цяпер у вёсках сустракаем рэдка
Паміж старых вясковых грамадзян,
На ўласных там працуючых палетках,
Дзесь маладых салянак і сялян.
І ўсе не спадзяваюцца нягоды,
Бо вераць і з надзеяю жывуць,
Што клопатаў не створыць ім пагода,
Што ў свята ўсе даедуць у царкву.

**ЦВЫРКУНЫ**

Пры лесе луг ляжаў вялікі,
Не раз там ноччу і вясной,
Я чуў савы здалёку крыкі,
Аркестр паблізу цвыркуноў.
Іх музыка наўкол грымела,
Як сотні гучных скрыпачоў,
А ў бляску месяца гудзелі
Раі над коньмі камароў.
Глядзеў, як коні адганялі
Хвастамі злосных сысуноў.
і слухаў, як чароўна йгралі
Аркестры гучных цвыркуноў.
Іх музыка ўгару ляцела
Да воблакаў, да шэрых хмар.
І неба з зоркамі нямела,
Пачуўшы іх рэпертуар.
Іх музыка зачаравала,
Мяне і конскіх пастухоў,
Яна ў вушах маіх гучала
Калі вярнуўся я дамоў.
Улез мне ў Індыі праз дзверы,
Пасля схаваўся дзесь цвыркун,
Штоноч будзіў ён на кватэры,
Пасля мяне, як злы крыкун.
Калі я ўстаў, то ён замоўчваў,
Калі я лёг, ён стаў крычаць,
Так не даваў ён цёмнай ноччу
Мне цэлы месяц моцна спаць.

## ПАЧУЎ Я РАНКАМ БУСЛА КЛЁКАТ

Пачуў я ранкам бусла клёкат
З гнязда на дрэве за сцяной,
Паведаміў ён, што здалёку
З’явіўся ён у нас вясной.
Што з Афрыкі праз рэкі, горы
Вярнуўся сёння ён сюды,
Што на лугах на нашых скора
Пачне шукаць штодзень яды.
Што з’явіцца тут хутка самка,
Захоча, каб яе прыняць,
Знясе яна яму тут яйкі,
І будуць разам пільнаваць.
На іх сядзець пачнуць пазменна,
Сваім іх целам аграваць,
Пакуль з іх не пачнуць штодёенна
Малыя буслы выпаўзаць.
Насіць ім будуць ежу, воду,
І дзюбай кожны дзень карміць,
Пасля ў час сонечней пагоды
Лятаць іх мусяць навучыць.
Калі пачуюць сілу ў крылах,
У неба шугануць яны.
Каб развітацца з намі міла,
Дзесь нашай дачакаць вясны.
Пасля вярнуцца зноў вясною.
І вось мне клекат абвясціў
З гнязда на дрэве за сцяною,
Што бусел наш да нас прыбыў.

## ПРЫНЁС СПЯКОТУ ЧЭРВЕНЬ РАЗАМ З БУРАЙ

Прынёс спякоту чэрвень разам з бурай,
Дажджы, і град, і смерч, і ураган,
Ламалі дрэвы грозныя віхуры,
Пяском прахожых абсыпаў буран.
Вось пацямнела, быццам ноччу, ў доме,
Пачуў я моцны лівень за акном,
І задрыжэлі сцены ўсе ад грому,
Як заблiскала ўсё акно агнём.
Ад бліскавіц зіхцела ўсё ў пакоі,
Ад маланак дрыжэла ўсё наўкол,
А вецер плакаў горка за сцяною,
І лівень ліўся за акном ракой.
За паўгадзіны зніклі бліскавіцы,
Ды лівень ліў, аж ноч змяніла дзень,
Аж заблішчэлі ліхтары ў сталіцы,
Пад ліхтарамі паявіўся цень.
І лівень ліў, калі я спаў у спальні,
А за сцяною вецер ноччу выў,
І грукат разбудзіў мяне ля пральні,
Там вецер дрэва з трэскам паваліў.
Калі я абудзіўся вельмі рана,
На вуліцу глянуў я праз балкон,
Пабачыў, што аўтобусны прыстанак
Ляжаў разбіты блізка за акном.
А сонца з неба вельмі ярка ззяла
І цешыла паблізу дзетвару,
Пагода зранку ўжо мне прадракала,
Спякоту, як у летнюю пару.

## ВОДГУКІ З МІНУЛАГА

### У СНЕ Я БАЧЫЎ ЧАСТА

У сне я бачыў часта
Свой родны дом, сяло,
Дзе ўсё маё юнацтва,
Як човен, праплыло.

Я бачыў сад чароўны,
Дзе яблані цвілі,
Дзе пчолы ў вулей поўны
Як дар, нектар нясл.

Галопам па дарозе
Я ездзіў на кані,
А ў лесе на марозе
Я грэўся пры агні.

Няроўныя палеткі
Раўняў я бараной,
І цешыўся, што кветкі
Там выраслі вясной.

Касіў я ў летняй блузе
Траву яшчэ з расой
У чэрвені на лузе
Бліскучаю касой.

Пасля сушыў там сена,
Сухое вёз дамоў.
Сякераю палены
У сне калоў зімой.

Я чуўся ў сне заўсёды
У вёсцы маладым,
Юнацкія прыгоды
Прыпамінаў заўжды.

**ГУЛагі**

Каб смелым адабраць адвагу
Да крытыкі, да вольных слоў,
Дыктатар тысячы ГУЛагаў,
Стварыў, каб чулі смак акоў.
І ў іх  галодныя задарма
Капалі не адін канал,
І будавалі дзесь плацдармы,
І гінулі ў мароз і шквал.
Зусім людзей невінаватых
Караў дыктатар без судоў:
Гнаў на растрэл і ў казематы,
Або ў ГУЛагаг на шмат гадоў.
За дваццаць год дваццаць мільёнаў
ГУЛагі мучылі ахвяр,
А паўтары мільёна сконаў,
Без трунаў трапілі  ў тартар.
На старасць Сталін. бедалага,
Стаў больш караць усіх людзей,
Найбольш набухлі ўсе ГУЛагі,
Калі ён лёг  у маўзалей.
Пасля ГУЛагі апусцелі
І хутка згінулі зусім,
Людзей мільёны ацалелі,
Пракляўшы сталінскі рэжым.
Калі забралі з маўзалея
Труп Сталіна ў магільны схоў,
ГУЛагі згінулі з надзеяй,
Што іх нідзе не будзе зноў.

ГУЛаг – Галоўнае Кіраўніцтва Лагераў у СССР у 1934- 1960 гадах. Тысячы лагераў для зняволеных.

**ШКАТУЛКА З ПІСЬМАМІ**

Калі феерверкаў агні
Заззялі ў акне яе гулка
Паміж гарадскіх  камяніц,
Адкрыла яна ўміг шкатулку.
Трымала ў шкатулцы лісты
З забытай ужо маладосці,
Напісаных шрыфтам  густым
Аб страсці, яе прыгажосці.
Папера пажоўкла на іх,
А літары ўжо пабялелі.
Лісты ў яе пальцах худых,
Як лісце на дрэве, дрыжэлі.
Раней акуляры на нос
Надзела дрыжачай рукою,
Ліст кожны трымала наўскос,
Чытаючы іх, прад сабою.
Услых іх чытала яна,
Па шчоках ліліся ёй слёзы,
Дрыжала ў пакоі… Адна,
Як дзесьці ад ветру бяроза.
Чытала яна пра любоў,
Пра высланыя пацалункі,
Пра безліч пахвальных ёй слоў,
Пра з кветак для ёй падарункі.
,,А першых, гарачых  няма?” _
Сябе тут яна запытала,
,,Усе тыя лісты сама
Калісь да сябе  напісала”.

**ЖЫТНІ ХЛЕБ**

Жытні хлеб быў калісь у пашане
На сталах у рабочых, сялян,
Бoханы цалавалі сяляне
Перад ежаю, як талісман.
Кожны бохан меў многа іх поту,
Улівалі ў яго цэлы год,
Пры пасеве, ў час жніў у спякоту,
А зімой, калі быў абмалот.
Бо сярпамі ўраджай жалі летам,
Як на жней ліўся промняў паток.
А снапы малацілі ўсе цэпам,
Выбівалі з іх зерне на ток.
Ачышчалі яго ад мякіны
І завезлі зярно да млына,
А муку аддавалі жанчыне,
Каб пры дзежцы стагнала яна.
Каб мясіла ў ёй цеста рукамі
І чакала, каб ноччу расло,
Прыкрываючы дзежку мяшкамі,
Як арол арлянят пад крылом.
І злепленыя бoханы жанчына
У гарачую ўкладала печ.
Новаспечаны хлеб праз гадзіну
На стол клала, як смачную рэч.
Ад яго чуўся пах у пакоі
І ён цешыў сям'ю цэлы дзень...
Хто меў хлеб, быў у добрым настроі,
У мароз працаваў і ў духмень.

## МНЕ ЧАСАМ СТРАШНЫ ЧЭРВЕНЬ СНІЦЦА

Мне часам  страшны чэрвень сніцца,
Ваенны сорак першы год,
Калі фашысты  з-за граніцы
Знянацку кранулі на ўсход.
    Гук абудзіў мяне раптоўна,
    На двор я выбег давідна,
    Убачыў самалётаў поўна.
    Я зразумеў, што зноў вайна.
Папалі бомбы ў склад бензіну,
На ўсходзе запалаў пажар,
Агня фантана  штохвіліна
Ляцела ўгору, быццам шар.
    І разрывалася ў паветры
    Клубамі яркімі ля хмар,
    Ганялі іх па небе ветры,
    А неба ззяла, як ліхтар.
Лятаалі нізка самалёты,
Пілот з іх выглядаў, як кат,
Яны стралялі з кулямётаў,
Калі заўважылі салдат.
    Пасля снарады аж з-за Буга
    Ляцелі з свістам за лясок
    І разрываліся з натугай,
    Дзе быў салдацкі гарадок.
Ужо ўцяклі адтуль салдаты,
З зямлянак выйшаў кожны ўзвод,
Сваі забраўшы аўтаматы,
Усе паехалі на ўсход.

**Віктару Шведу на 90 юбілей нараджэння**

Міне ўжо семдзесят гадоў  зімою,
Калі сустрэў Цябе я ў беларускай школе ў Бельску
між сяброў,
Закончыў я тады  з Табой гімназію вясною,
І лёс нас скіраваў да розных гарадоў.
    Бо беларускі наш ліцэй закрылі ўлады,
    Закончыць мусіў польскі я праз два гады,
    А Ты тады пакінуў Бельск наш без спагады.
    На доўгі час я загубіў Твае  сляды.
Пасля я пяць гадоў жыў над ракой Нявою,
А Ты ў Варшаве веды здабываў,
Я раз калісь сустрэўся там з Табою,
Калі ў студэнцкім інтэрнаце начаваў.
    Хоць потым лёс нас па шляхах жыццёвых
    Змушаў ісці ўвесь час да розных мэт,
    Шляхі ўсе нашы зблізіў воблік каляровы
    Жывой  паэзіі чароўны сілуэт.
Калі нам вестка загучала, як марціра,
Што ўжо тыднёвік беларускі ўбачыў свет,
Збудзіла  нас паэзіі жывая ліра,
І кожны з нас пісаць стараўся, як паэт.
    Тады я зноў Цябе сустрэў на семінары,
    У Беластоку, ў ,,Ніве”, эа сталом,
    Даведаўся тады, што пры варшаўскім тратуары
    Нас госціць там адзін супольны дом.
Мы з іншымі былі тварцамі ,,Белавежы”,
Якая хутка скончыць шэсцьдзясят гадоў,
І свеціць, як рэфлектар на высокай вежы,
Сваімі творамі і славаю тварцоў.

І на старонках ,,Нівы" мы пісалі вершы,
На беларускай мове, ўласнаю рукой.
Ты змусіў выдаць мне мой зборнік вершаў першы
І выйшлі іншыя з падмогаю Тваёй.
Жадаю я Табе і шчасця, і здароўя,
На дзевяносты твой чароўны юбілей,
Каб Ты да ста гадоў дажыў без белакроўя
І каб пісаў у ,,Ніву" вершы для дзяцей.



Новы 1961 год у Д.Шатыловіча. Злева: З.Верблінскі, жонка Д. Шатыловіча – Ніна, стаіць Д.Шатыловіч, цёшча Д. Шатыловіча-Матыльда. Віктар Швед.

**ЯК БАДЗЯГУ...**

Як бадзягу, змушаў лёс мяне да блукання па свеце,
У юнацтве нахабна мяне адабраў ад бацькоў,
І, як вецер лісток, ці, як нейкае бруднае смецце,
Гнаў на поўнач мяне, аж папаў я ў прытон чужакоў.
І ў аковах у іх два гады я пражыў, як нявольнік,
Вызвалення чакаў, спаглядаючы толькі на ўсход,
Дачакаў я яго ў кананадзе гармат навакольных,
Вызваленне пагнала мяне, як салдата, ў паход.
Праз гады тры з усходу вярнуўся дамоў я зімою
І з вакзалала я ноччу прыйшоў сам адзін па жарстве,
Нечакана сустрэўся ў ім з маткай і з роднай сястрою
І даведаўся там, што мой бацька даўно не жыве.
Ды лёс хутка мяне з дому выгнаў у горад у школу,
Тры гады я там жыў, толькі летам вяртаўся дамоў,
Памагчы матцы збожа касіць, накарміць ёй жывёлу,
Нарубаць многа дроў, каб у хаце не мерзла зімой.
А пасля пяць гадоў я пражыў над ракою Нявою,
Як студэнта прыняў там мяне ў інстытут Ленінград,
І штогод я вяртаўся дамоў спешна летняй парою,
Каб у верасні быць у сваім інстытуце назад.
З інжынера дыпломам лёс працу мне даў у Варшаве
І прымусіў пакінуць мяне на Падляшшы мой дом,
Лёс кватэру мне даў, падарыў мне сям’ю неўзабаве,
І заставіў мяне па дзяржаве блукаць цягніком.
А пасля за мяжу высылаць стаў мяне вельмі шчодра,
І пазнаў я Мамаю, Дуброўнік і Бахчысарай,
І гуляў я ў Парыжы, па Альпах, быў часта за Одрай,
І пабачыў Калькуту, Бамбей, Катманду і Дубай.

Цягнікомі аўтобусам ездзіў я ўдзень праз Балканы,
Па Грузінскай ваеннай дарозе праехаў Каўказ,
Я ляцеў самалётам з Баку да варот Ерэвана,
А Тбілісі і Сочы калісьці я бачыў не раз.
Я блукаў па старым азіяцкім калісь кантынэнце,
Лёс закінуў мяне ў Самарканд, а пасля ў Бухару
З турыстычнаю групай я ездзіў тады па Ташкенце.
А ў Сафіі заехаў я раз на Вітоша гару.
Я купаўся ў Піцундзе і ў Адлеры ,ў Агры і ў Сочы,
У Дуброўніку, ў Ялце, ў Мамаі, ў Эфорыі Суд,
А ў Баку на Каспійскае мора глядзеў я ахвоча,
Як бляск сонца змяняў яго хвалі ў жывы ізумруд.
А цяпер я на пенсіі вершы пішу і ўспаміны,
Бо не маю ўжо сілы, каб ехаць кудысь цягніком,
І спакойна ў кватэты праходзяць і дні, і гадзіны,
Загляну толькі ў парк, пахаджу па алеях цішком.
Тэлевізар, камп'ютар пакажуць мне часам мясціны,
Дзе прабеглі пражытыя мною калісьці гады,
Як на фільме пабачу жыццёвыя ўсе каляіны,
Па якіх я блукаў, бо меў сылы і быў маладым.



1987 год.Індыя. Д.Шатыловіч ў храме джэйнаў
у Параснашы.

## НА ЛЁС МОЙ Я НЕ СКАРДЗІЎСЯ, ШТО ВЫГНАЎ З РОДНАЙ ХАТЫ

На лёс мой я не скардзіўся, што выгнаў з роднай хаты,
І ў Прусіі мяне зрабіў нямецкім батраком,
І што адзеў мяне ў шынель і змусіў стаць салдатам,
Што з ранаю ў шпіталь завёз і ўкінуў у пакой.
Не меў я жалю да яго, што доўга на чужыне
Блукаў салдатам па глухіх прытонах я ўвесь год,
Без весткі ад маіх бацькоў, без весткі аб айчыне,
Не знаў ці дом мой ацалеў, хлявы і агарод.
Узнагародзіў лёс мяне, вярнуўся я дадому,
Сустрэў там матку і сясру і ацалелы дом,
Хоць вёска ўся згарэла ўдзень ваеннага пагрому,
Калі загінуў бацька мой з вадою і вядром.
І стаў мяне галубіць лёс, даваў мне дапамогу,
Паслаў за парту ён мяне ў гімназію, ў ліцэй,
І ў інстытут мне за мяжу памог знайсці дарогу,
Даваў стыпендыю ўвесь час, як шчодры дабрадзей.
Да працы скіраваў мяне ў дзяржаўную сталіцу,
І там памог прыдбаць кватэру, жонку і дзяцей,
Ён часта высылаў мяне да працы заграніцу,
Каб я пабачыў свет, пазнаў жыццё другіх людзей.
Не наракаў нідзе ў сваім жыцці я на здароўе
І бліз экватара, і ля паўночных рубяжоў,
Тады ўсе працу мелі, не пужала беспрацоўе,
Хаця яго тады я часта бачыў за мяжой.
Тады я не імкнуўся да багацця і кар’еры,
І не баяўся, што на старасць буду бедняком,
І я заможным чуюся цяпер пенсіянерам,
Хаця ў пагодны дзень на шпацыр я хажу пяшком.

## ЗАТРАСЛАСЯ ЗЯМЛЯ ЎСЯ Ў НЕПАЛЕ

Затраслася зямля ўся ў Непале,
Дзе глядзеў я тры дня Катмаду,
Дзе ў гасцінічнай  і вычварнай зале
Прывітала мяне какаду.
Там індускіх багоў многа храмаў
Я з сябрамі штодзень аглядаў,
Нас туземцы цягнулі да крамаў
І хадзілі па нашых слядах.
Абышлі мы будыйскія храмы,
Гістарычны яго цэнтр Дабрар,
Там пабачылі ступы, рэкламы,
З кожнай ступы блішчэў Буды твар.
А цяпер я пачуў, што раптоўна
Затрасліся там храмы багоў,
Што там трупаў і раненых поўна
Пад руінамі многіх дамоў.
Землятрус там праходзіў чаргова,
Іх чатыры было ў адзін дзень,
Там загінула пад забудовай
Многа тысяч мясцовых людзей.
І разбурыўся пекны храм малпаў
У даліне на пляцу Дурбар,
Мы на храм па ступенях упарта
Узышлі, як да звонаў званар.
І з яго ў яркім сонечным бляску
Катманду аглядзелі мы від,
Сотні храмаў цвілі ў ім, як краскі,
Помню дзіўны наўкол краявід.

## БЕЖАНСТВА НА ПАДЛЯШШЫ

Ад захаду ішоў паволі да Падляшша
З грамамі, з грозным шумам ураган вайны,
А прапаганда ўлад сялян любіла страшыць
Шалёным ворагам з аблiччам сатаны.
Яна пужала ўсіх, што вораг іх замучыць,
Заморыць голадам, як вёскі ўсе займе,
Да працы змусіць іх за провадам калючым,
Або яны ўсе знойдуцца ў турме.
Таму, калі даходзіў фронту адгалосак,
Сяляне клалі свой маёнтак у вазы,
Ды іх казакі выганялі з родных вёсак
Хутчэй на ўсход, каб не схапілі маразы.
І нечакана сустракаў іх на дарозе
Дождж праліўны, віхура, ці начны буран,
А смерць ахвяр не раз шукала на іх возе,
На могілкі забрала тысячы сялян.
Пасля завезлі цягнікамі іх далёка,
Бо нейкія папалі нават за Урал,
А многім надаела дзесь на поўдні спёка,
І кожны перажыў з іх бальшавіцкі шквал.
Ён змусіў большасць з іх вяртацца на Падляшша,
Да апусцелых вёсак, дзе жылі калісь,
Да зруйнаваных хат, ды без жывёл на пашы,
Дзе пустазеллем зараслі ўсе іх палі.

Дзе панавала ўжо там іншая дзяржава,
І трэба будзе ўчыцца мовы не сваёй,
Алфавітам другім пісаць да ўлад заявы,
Дзе мусяць да валюты прывыкаць другой.
Мільёны бежанцаў загінулі на ўсходзе,
А нейкія знайшлі свой дом на чужыне.
Залечвала гадамі раны ўсе ў народзе
Падляшша ў нас па першай сусветнай вайне.



1912 год. Аляксандра і Лідэія Чэкмаровы,
матка і цётка Ніны – жонкі Д.Шатыловіча.

## ДАЎНО ЎЖО МЯНЕ ТАМ НЯМА

Часам сон мне прысніцца зласлівы:
Час нямецкай няволі, турма,
Прачынаюся вельмі шчаслівы,
Што даўно ўжо  мяне там няма.

Як гразяць нам вайною ў Еўропе
Я ваенны  прыпомню кашмар,
І шчаслівы, што я не ў акопах,
Што даўно ўжо мяне ў іх няма.

У нас цёпла, а ля Петраграда
Многіх холадам мучыць зіма,
Спачуваю я ім, вельмі рады,
Бо даўно ўжо мяне там няма.

Раз пачуў я, што ў Індыі дзесці
Паявілася раптам чума,
Не спужалі мяне злыя весці,
Бо даўно ўжо мяне там няма.

Раз у вугалнай шахце глыбока
Без святла нас настрашыла цьма,
Я спакойны, бо шахты далёка
І даўно ўжо мяне там няма.

Людзі нейкія ў Азіі , чую
Вызваляюцца гучна з ярма,
Памагчы ім хачу,  і  шкадую,
Што даўно ўжо мяне там няма.

Бацькі хата ў маёй роднай вёсцы
Вельмі доўга сумуе сама,
Маё прозвішчв бачаць на дошцы,
А даўно ўжо мяне там нама.

## МАЯ ЖЫЦЦЁВАЯ СЦЕЖКА

У гады вайны я  ўбачыў многа зла,
Хоць атрымаў толькі раз я  ўдар нагайкай,
Смерць мяне ўкусіла толькі і ўцякла,
След укусу мне аставіла, як лайка.
З лабірынту і няволі, і бяды,
Доўга лёс шукаў мне сцежку да свабоды,
І знайшоў ён мне яе праз тры гады,
І правёў праз  паваенные прыгоды.
А прайшоў праз сталінізм я сам без ран,
Не сустрэў нідзе яго крывавых клыкаў,
Бо пры ім я, як ваенны ветэран,
У пашане быў з дзяржаўнаю апекай.
За мяжою я закончыў інстытут,
Дзе дыплом далі магістра – інжынера,
А пасля да працы я дастаў маршрут,
Каб у ёй рабіць тэхнічную кар’еру.
Я не быў выняткам між дзяцей сялян,
Бо для іх адкрылі дзверы да кар’еры,
Здольны селянін прафесарскі мог сан
Здабываць тады ў прыемнай атмасферы.
Беспрацоўе не пужало нас тады,
Па дыпломе кожны меў наказ да працы,
Там змушалі працаваць нас тры гады,
Ці ў бюро, ці на будове дзесь на пляцы.
А пасля наказу працы я пазнаў
Лёс, жыццё людзей далёка за мяжою,
І да пенсіі ў здароўі дячакаў,
І на праўнукаў глядзець магу ў спакою.

**СУСВЕТ**

Ад Вялікага выбуху быццам паўстаў
Наш бязмежны,  таемны і дзіўны сусвет,
І раскінуўся ў цёмнай прасторы сустаў
Раскаленных рой сонцаў, халодных планет.
І паўсталі сузор'і, як наш Млечны шлях,
З батальёнамі зорак, планет і камет,
Дзе лятае з іх кожная ў цёмры, як птах,
І мы бачым на небе іх зорны букет.
Гравітацыі толькі пакорны яны,
Вызначае яна ім дарогу і рух,
Не дапусціць яна да сутычкі, вайны,
Там пануе між імі   заўжды згодны дух.
Бо там Чорная дзірка палюе на іх,
Непаслушных захопіць і знішчыць датла,
Як у студні загіне аб ёй нават слых.
І не выйдзе з яе нават промень святла.
У тым мёртвым сусвеце мільярдаў планет,
На адной паявіўся жывы чалавек,
Выпускае у космас ён сотні ракет
І ў касмічнай прасторы ён часам жыве.
Пахадзіў ён па Месяцы некалькі раз,
У скафанры і ў ботах павольна, як слон,
Яго робаты селі на Венус, на Марс,
Адзін робат забачыў, што робіць Плутон.
На Зямлю яны здымкі прыслалі здалёк,
І  з Плутона, і з месяцаў дзіўных яго.
І туды заглянуў чалавечы ўжо зрок
і пабачыў, ці ёсць там: мароз, ці агонь.

## БГКТ МІНУЛА 60 ГОД

БГКТ мае ўжо шэсдзесят год жыцця.
Наперакор усяму нам яно, не старэе,
Ў беларусаў імкнецца ўзбудзіць пачучуццё
Да іх мовы, фалклору, народных ідэяў.
Пашырала яно ім асветы прастор.
Закладаючы ім беларускія школы,
Памагло павялічыць ім кніжак набор,
Беларускія кнігі, прывозячы ў сёлы.
Калектывы ансамбляў стварыла яно,
І іх песні спявае ўжо тры пакалення,
Беларускія песні мы чуем даўно,
Іх спяваюць цяпер у тэатрах на сцэнах.
Беларускі тыднёвік паўстаў для яго
І атрымаў прыгожае прозвішча ,,Ніва”,
Ён заззяў на Падляшшы, як яркі агонь,
Нарадзіў беларускіх паэтаў імкліва.
Завязлі яны творы да вёсак, да клунь,
Беларускія вершы чыталі сялянам.
Першы зборнік іх вершаў названы быў ,,Рунь”,
Выйшаў з шумам у Польшчы з вялікай пашанай.
Беларускі выходзіць штогод каляндар,
Ён таксама ідзе пад сялянскія дахі,
Пападалі не раз на паэтаў алтар
Паэтыцкія творы іх - альманахі.
Пад натхненнем яго нарадзіцца магло
Аб’яднанне іх творцаў усіх ,,Белавежа”.
І іх многія творы прызнанне знайшло,
Ды не толькі у нас, іх пазнала замежжа.

Мы жадаем Таварыству жыць многа год,
Каб яно працвітала без смутку і гора,
Праслаўляла ўвесь час беларускі народ
Беларускімі творамі, родным фалклорам.



## БАЦЬКОЎСКАЯ СЯДЗІБА

Прыехаў я сюды вясною,
Нікога я тут не сустрэў,
Стаяў пусты дом прада мною,
За ім пусты таксама хлеў.
    Не забрахаў нідзе сабака,
    Не заіржаў са стайні конь,
    Ніхто не крыкнуў, не заплакаў,
    Ніхто не выглянуў з акон.
Зарос травою ўвесь падворак,
А студню мох абвіў наўкол,
Глядзяць на ўсё з акна ў каморы
Стары гадзіннік, белы стол.
    Праз вокны дома выглядаюць:
    Кафляная да столі печ,
    І мэбля бурая старая,
    І жырандоль. як доўгі  меч.
І агарод зарос травою,
Ля клуні вырасла трава,
Шчабечуць птушкі над страхою,
І на неспаленых дрывах.
    Іх толькі ўбачыў тут жывымі,
    Іх толькі чую галасы,
    І цешуся я разам з імі
    З іх шчабятання і красы.
І ўспамінаю час далёкі,
Як тут калісь плыло жыццё,
І адчуваю сум глыбокі,
Што тут прыйшло ўсё ў забыццё.

## З ЖЫЦЦЯ ЗАСТАЛІСЯ ЎСПАМІНЫ

З жыцця засталіся ўспаміны,
Іх памяць моцна беражэ,
З далёкіх год плывуць карціны,
Ім прыглядаюся бліжэй.
Адны прыемна лашчацыь вока,
Другія вызываюць гнеў,
Перажываю іх гдыбока,
Гляджу на іх, як з клеткі леў.
Прыпамінаю рад знаёмых,
Яікіх пабачыў я ў жыцці,
Ці дзесь сустрэўся пакрыёма,
І іх больш не хацеў знайсці.
Заўважу часта іх на здымках,
Якія сам рабіў калісь,
Прыпомню я аб іх учынках,
Што мы рабілі, дзе былі.
Сустрэў я розныя краіны,
Куды мой лёс мяне паслаў,
Аб іх засталіся ўспаміны,
Аб іх я вершы напісаў.
Пазнаў я  дзіўныя курорты,
Пры моры быў пры кожным пляж,
Замежныя аэрапорты,
Вясёлкавы марскі пейзаж.
Праехаў я не раз Балканы,
А раз з турыстамі Каўказ,
У Альпах еў я ў рэстаране,
Ля Гімалаяў быў не раз.

## ЯШЧЭ ЗНАХОДЖУ ЧАСТА СІЛЫ

Яшчэ знаходжу часта сілы,
Каб напісаць аб вёсцы верш,
Ды маю ўжо слабыя крылы,
Каб быць у ёй і ўзяць лямеш.
Ды з дапамогай інтэрнэту,
І з тэлебачання  карцін
Я аблятаю ўсю планету
Без крылаў, хутка, сам адзін.
Я над  Ісмскаю Дзяржавай
Гдяджу на роў бамбавікоў,
Як бомбы з водбліскам крывавым
Ляцяць на іх баявікоў.
У помсце за ўсе іх забойства
Шыітаў, многіх хрысціян,
Што выгналі з краіны мноства
Людзей, якіх пужаў Каран.
У помсце за ўсе іх тэракты,
Застрэленых раней ахвяр,
Прыпомніў у Парыжы факты,
Калі ў крыві ззяў тратуар.
І бачу, як іх мучаць курды,
Хоць разам прызнаюць іслам,
Хоць туркі іх бамбяць абсурдна,
Не хочуць, каб быў Курдыстан.
Сяджу і ў доме гора бачу,
Як людзі гінуц кожны дзень,
Як мучацацца ад ран і плачуць,
А смерць ля іх стаіць, як цень.

## У ЖЫЦЦІ СУСТРАКАЎ Я ДЗІВОСЫ

У жыцці сустракаў я дзівосы,
Неспадзянкі дзесяткі разоў,
Раз прыселі пры мне альбатросы,
І рыбацкі забралі мне ўлоў.
Я быў сведкам, калі дождж шалёны
Ліў, а сонца свяціла між хмар,
Вецер дрэвы змушаў біць паклоны,
А дыск сонца блішчэў, як янтар.
У жыцці сустракаў я немала
Недарэчнасцей многа наўкол,
Раз зямля ад снарадаў стагнала,
А ляжаў я ля вулеяў пчол.
Пчолы ў вулеях толькі гудзелі,
Ды баяліся выйсці зімой,
Я ляжаў, а ляталі шрапнелі
Ад сnанарадаў у гуле грамоў.
І тады прыляцеў моцны вецер
І пачаў сыпаць снегам мне ў твар,
Загарэлася пуня, як смецце,
Шугануў вельмі блізка пажар.
Ды заціхла тады кананада,
Наш узвод захапіў дом, хлявы,
Перастаў я баяцца снарадаў,
Я пакінуў тады пчол жывых.
Мы не ведаем, што нас чакае,
Помнім толькі прыгоды свае,
Мы іх часта ў жыцці ўспамінаем,
Успамін часам спаць не дае.

## МІНУЎ 2015 -ТЫ ГОД

Мінуў пятнадцаты ўжо год
Двадцатага стагоддзя,
Прынесшы ўсюды многа шкод
І людзям і прыродзе.
Забілі тысячы людзей
Цыклоны і ўраганы,
Другую тысячу ў вадзе,
Тапілі акіяны.
І часта памагалі ім
Паводкі і цунамі,
Агонь, пажараў едкі дым
Над пушчамі, лясамі.
Стала гразіць наўкол вайной
Ісламская Дзяржава,
Праславіўшыся не адной
Расправаю крывавай.
Рэкламавалі на ўвесь свет
Забойствы іншаверцаў,
Ім забіваючы штылет
У галаву, ці ў сэрца.
А іх смяротнікі, як смерч,
Смерць неслі нешчаслівым,
Білі мацней яшчэ, чым меч,
З ахвяр збіралі жніва.
Туніс іх помніць, і Парыж,
Мячэць з людзьмі ў Кувейце,
Дзесь над ахвярай кожнай крыж
Стаіць, ці помнік смерці.

**ВІТАННЕ НОВГА ГОДА**

Цяпер сустрэў я Новы год
Спакойна, ціха, толькі з жонкай,
Замест шампана толькі мёд
Пілі з бакалаў звонкіх.
　　　Не ўсе я Новыя гады
　　　Прыпамінаю сёння.
　　　Калі быў хлопцам маладым,
　　　Амаль цяпер зусім не помню.
Хоць не забуду дзвюх сустрэч
З маёй сяброўкай у палоне,
У немца, дзе не грэла печ,
Аж на паддашы ў доме.
　　　А пяць розоў я сустракаў
　　　Яго студэнтам над Нявою,
　　　Заўжды шампанам там вітаў
　　　Яго ў маім малым пакоі.
Пасля ў палацах я вітаў
З сям’ёй, дзе жыў, яго ў Варшае,
Там нам аркестр прыгожа йграў,
Пры гучнай радаснай забаве.
　　　А раз сустрэў яго калісь
　　　У Тузлы ў нейкім рэстаране,
　　　Мы ноч усю там правялі
　　　Пры аркестры з барабанам.
Я два гады яго вітаў
У клубе ў Індыі ў Бакара,
Індускі хор для ўсіх спяваў,
Пры гуках скрыпкі і гітары.

## ЗНІШЧЫЦЬ ЗЛА,ХОЦЬ ХАЧУ, НЕ МАГУ

Знішчыць зла,хоць хачу, не магу,
Аглядаючы ў свеце кашмары,
Я сумую, гады мне бягуць
Па жыццёвым маім тратуары.
Хоць раней клеймаваў я яго,
Ды кляймы праляталі, як рэха
Зло смяецца ўвесь час з усяго,
Адкідае кляймы ўсе з уцехай.
Яго цешыць, што нейкі народ
Адчувае бяду і пагрозу,
Калі людзі ўміраюць штогод
Ад паводак, агню ці марозу.
Калі гінуць дзесь людзі ад бомб,
Ці ад куль, ці дзесь топяцца ў моры,
Калі знішчыць сяло грозны тромб,
І калі землятрус знішчыць горад.
Прывыкаў я паволі да зла,
Бо я бачыў яго ўсюды ў свеце,
Бо прыходзіць яно, як імгла.
Пераможцам ідзе па планеце.
Знішчыць зла і раней я не мог,
Калі быў малады, больш меў сілы,
Можа знішчыць яго толькі Бог,
Я са злом дажыву да магілы.

**БЕЛАРУС –,, АФГАНЕЦ”**

Помню я, як у сне, ў цягніку
Я сустрэў беларуса - ,,афганца”,
Меў ён правую ў шрамах шчаку,
У ружова-чырвоных румянцах.
Замест левай і  правай нагі
З нагавіц выглядалі пратэзы,
Зубы меў, з рук ён еў пірагі,
Як нажом іх, кусаючы, рэзаў.
Ён на фронце пражыў адзін дзень,
Ад афганскага хутка снарада
Страціў ён дзве нагі да калень,
І ў шпіталь ён папаў са спагадай.
У шпіталі  амаль не памёр,
Аперацый там вытрымаў многа,
Ім займаўся там лекар-маёр,
Ён адрэзаў і вылечыў ногі.
У шпіталі пратэзы далі
І хадзіць навучылі праз месяц,
А без ног ён на роднай зямлі
Ветэранам пражыў гадоў дзесяць.
Мае жонку і двое дзяцей,
Сын у школе і  ўжо  ў  трэцім  класе.
З ветэранскай падмогай лягчэй
Жыць яму інваліду ў калгасе.
Цягніком ехаў ён да сяброў,
Дзесь ля Роўна, ў сяло на Ўкраіну,
Пралівалі яны разам кроў,
Іх калісь у шпіталі пакінуў.

**НА 60 ЮБІЛЕЙ ,,НІВЫ”**

Мінула ўжо 60 вёснаў,
Калі нарадзілася ,,Ніва”,
Аб ёй вестка з шумам галосным
Абегла краіну імкліва.
Збудзіла яна тады летам,
Танцораў і харыстаў,
Са сну беларускіх паэтаў,
Празаікаў і журналістаў.
І мы на старонках газеты
Чыталі ўсе ў родных выданнях
Прыгожыя вершы, санеты,
Цікавыя апавяданні.
Ахвотна куплялі газету
Тады беларусы ўсе ў сёлах
І вершы чыталі паэты
Сялянам у клунях і школах.
Пасля літаратары ,,Нівы”
Стварылі свае аб’яднанне,
Яно хутка будзе шчасліва
Мець свой юбілей існавання.
Назвалі яго ,,Белавежай”,
Дало нам багатыя плёны,
І славіць яго ўжо замежжа,
І творцам прыносіць паклоны.
Жадаю рэдакцыі ,,Нівы”
Мець сотні такіх юбілеяў,
Каб мела заўсёды мажлівасць
Нацешыцца з мілых падзеяў.

## 70 –АЯ ГАДАВІНА ГЕНАЦЫДУ БЕЛАРУСАЎ НА ПАДЛЯШШЫ АД БАНД РАМУАЛЬДА РАЙСА ,,БУРАГА”

Мінула ў тым годзе ўжо 7о год,
Калі ,,Буры” з бандай прынеслі ў паходзе
Задумы забойстваў, пажараў смурод
На вёсках Падляшша ў беларускім народзе.
Знайшлі ў Белавежы яны вазакоў,
Якіх з коньмі ў пушчу паклікалі ўлады,
Іх змусілі ехаць паліць жыхароў
Спатканых у вёсках усіх без спагады.
Спалілі ў Залешанах з вёскі дзяцей,
Жанчын і сялян, і двух расстралялі.
І вёску спалілі, спатканых людзей
Пасля па дарозе у Бранск мардавалі.
Мішэнню для іх быў там кожны мужык,
Бо каты не мелі для іх спачування,
Спалілі Арэшкава, Ягаднікі і Чыжы,
Далей у Шпаках мардавалі і ў Занях.
У Занях забілі цверць сотні сялян,
І вёску спалілі з уцехаю каты,
У хаце там загінуў стары ветэран,
І хлопец малы, бо не ўцёк ад іх з хаты.
Пасля 28 жывых вазакоў,
Яны ў лес загналі ў Пухалы – Старыя,
Вінтовак прыкладамі, горш чым звяроў,
Усіх іх забілі драпежнікі злыя.
Астанкаў шукалі, знайшлі, то тады
У Бельску- Падляшкім злажылі ў магілу,
Іх помнік над імі прыпомніць заўжды
Аб зверствах банд Райся з вялікаю сілай.

## МНОГА РАЗ ПРАЖЫЎ Я НЕБЯСПЕКУ

Многа раз пражыў я небяспеку,
Смерць я ўбачыў блізка наяву,
Плюнула яна мне ў левую павеку...
Цешуся, што я яшчэ жыву.
Выбухнуў снарад дзесь перад мною,
Сыпануў уверх, як дождж, пясок,
І замёрзлаю зямлі грудою
Стукнула мяне ў мой левы бок.
Ды салдацкая шынель шчаслівa
Зберагла тады мой бок ад ран,
Напужалала смерць мяне зласліва
І схавалася пад свой турбан.
Запаленне лёгкіх нечакана
У час акупацыі зімой,
Без лякарстваў, лекараў пашаны
Перажыў у вёсцы я малой.
Смерць стаяла мне над галавою,
Слухала, калі я трызніў ёй,
Бачыла, як бегаў па пакоі
У гарачцы з хвораю душой.
На злосць ёй я пакарыў хваробу,
І пражыў пасля няволю ў чужыне,
Лёс жыццё салдата даў на спробу,
І аж у Бабруйск загнаў мяне.
Потым меў у Індыі прыгоду,
Заблудзіўся ў джунглі сам адзін,
Без піцця ў гарачую пагоду
Я пражыў між малпаў злы ўспамін.

## Я БОГУ ДЗКУЮ ЗА ЛЁС

Я  Богу дзякую за лёс,
Які сустрэў я па няволі,
Што перажыў вайны хаос
Далёка між чужых ваколіц.
Што потым трапіў за Няву,
Калісь у рускую сталіцу,
Пазнаў усё там наяву
І Альма-Матэр таямніцы.
Меў забяспечаны там быт,
Я пяць гадоў жыў у дастатку,
І не хварэў там на гастрыт,
Не галадаў, не знаў падатку.
А потым працу мне далі
З маёй прафесіі ў Варшаве,
Аб’ехаў я кусок зямлі,
Быў госцем не ў адной дзяржаве.
Нідзе пасля я не хварэў,
Я не баяўся тэрарыстаў,
Багацця я нідзе не меў,
Любіў тэатры і артыстаў.
Прыемнай цешуся сям’ёй.
Растуць унукі і праўнукі,
Не мёрзнуў я нідзе зімой,
Мне не баляць ад працы рукі.
Я Богу дзякую за лёс,
Які мяне сустрэў усюды,
За ўсё, што мне ў жыцці прынёс,
За ўсе пабачаныя цуды.

## МІНУЛА СЕМДЗЕСЯТ ГАДОЎ

Мінула семдзесят гадоў,
Калі вайны няма ў краіне,
На фронце ў нас не льецца кроў
І не адзін салдат не гіне.
Адбудавалі гарады
І нашы вёскі грамадзяне,
Людзей мільёны маладых
Вайну пазналі на экране.
Выняткаў змусілі калісь
Пазнаць вайну ў Афганістане,
І многія там смерць знайшлі,
Між гор там уміралі ў ранах.
Не будзе хутка між жывых
Ваенных нашых ветэранаў,
Жыццёвых сведкаў баявых
Слядоў па ўсіх варожых ранах.
Тады застануцца адны
Запіскі іх і ўсе ўспаміны,
І дакументы ўсе з вайны,
Фатаграфічныя карціны.
Адны гісторыкі тады
Аб ёй напішуць з пратаколаў,
І змусяць вучняў маладых
Аб ёй вучыцца ў розных школах.
І ў гадавінах перамог
Аб ёй прыпоняць на парадах,
Пры тупаце салдацкіх ног
І ля саноўнікаў урада.

## КАБ ЛЁТАЦЬ У ПАВЕТРЫ

Калісь, каб лётаць у паветры
Дала прырода птушкам крылы,
Былі для іх не страшны ветры,
Бо мелі ў крылах многа сілы.
Яны змянялі кантыненты,
Калі прыйшлі да нас марозы,
Без компаса, без інструментаў
Не чулі страху і пагрозы.
Глядзелі людзі з захапленнем
На іх чароўныя палёты,
Пасля стагоддзяў са здзіўленнем
Стварылі ўрэшце самалёты.
Яны вышэй, хутчэй ад птушак
З людзьмі лятаюць па ўсім свеце,
Гудзяць гучней чым сотні мушак,
Тавар развозяць па планеце.
Другія з бомбамі лятаюць,
Бамбяць дзесь гарады, заводы,
І да людзей згары сраляюць
І нішчаць танкі, самаходы.
Ды захацелі людзі потым
Лятаць на іншыя планеты,
Стварылі хутка да палётаў
Яны касмічныя ракеты.
І касманаўты ў іх на Месяц
Забраліся і там, як барсы,
Разоў па ім прабеглі дзесяць,
І хочуць паляцець на Марса.

## ЯК СТРАЛА, ЛЯЦЯЦЬ МАЕ ГАДЫ

Як страла, ляцяць мае гады
І ўсё змяняецца навокал,
Калісь я хлопцам маладым
Хацеў у свет ляцець, як сокал.
І потым я лятаў па ім,
Аж у Калькуту, Дэлі, Кіеў,
У Сімферопаль, аж на Крым,
Да многіх гарадоў Расіі.
Я раз ляцеў з Масквы ў Баку,
Пасля з Баку да Ерэвана,
І з Алма-Аты у Маскву,
Дубай вітаў мяне з пашанай.
З Варшавы лётаў я ў Ташкент,
З Ташкента аж да Самарканды,
І праз індыйскі кантынент,
Да Бухары і да Бялграда.
Прыпомніць цяжка мне цяпер
Усе, дзе быў, аэрадромы,
І там , дзе мытнік , быццам звер,
Рабіў мне ў багажы пагромы.
Тады без страху я лятаў,
Не чуў нідзе я пра тэракты,
Курортаў многа я пазнаў,
Дзяржаў, дзе лётаў на кантракты.
І вось я ўжо пенсіянер,
Успамінаю ўсе палёты,
І з жахам чую. як цяпер,
Штомесяц гінуць самалёты.

**ПЕРАДВАЕННЫЯ ГАДЫ**

Перадваенныя гады,
Я добра помню на Падляшшы,
Калі я хлопцам ад бяды
На восень закладаў камашы.
А летам бегаў басанож
Па гліне, жвіру і іржышчах,
Мне бруд заўжды змываў з ног дождж
І абмываў сляды па прышчах.
Перадваенныя гады
Я помню ў Польшчы на Паддяшшы,
Калі я хлопцам маладым
З канём праводзіў ноч на пашы.
Тады конь ноччу еў траву,
А я пры вогнішчы з сябрамі
Дзесь з лесу слухалі саву,
І свісты ветру над лугамі.
Я помню роднае сяло,
З дамамі з дахамі з саломы,
Хлявы за домам, плот з калоў,
Зімою прызбы ля сцен дома.
І з лямпы газавай святло
Свяціла ў вокнах ноччу ў хатах,
Антэн на дахах не было
Тады ні ў бедных, ні ў багатых.
Траву касец касіў касой
Тады ў балоце па калені,
А дровы звозілі з лясоў,
Каролі дома на паленні.

Вадою быў заліты луг,
Які цяпер завуцьБалотам.
Зямлю араў усюды плуг,
І конь цягнуў яго з маркотай.
Тады жаў збожа толькі серп
Рукамі жнеяў у спякоту,
А малаціў зімою цэп
Рукамі мокрымі  ад поту.
І ў тыя цяжкія гады
Умеў я бавіцца вясёла,
Тады я вучням маладым
Шэсць класаў скончыў польскай школы.



1938 год. Д.Шатыловіч, вучань 5-га класа школы ў Чаромсе.

**СПЕШКА**

Юнаком я не спяшыў ніколі,
Сам хадзіў усюды пехатой,
Аглядаў спакойна лес і поле,
І любіў спеў птушак і спакой.
Пехатой хадзіў штодзень да школы,
Часта цэраз лес і гушчары,
І на ровары ў другія сёлы
Заязджаў на фэст, на вечары.
Нават два гады маёй няволі
Я ў нары пражыў сам, як барсук,
Толькі ўжо салдата без патолі,
Завязлі мяне аж у Бабруйск.
А пасля, калі далі ў Варшаве
Працу, пасялілі ў новы дом,
Я ўжо мусіў блукаць па дзяржаве
Самаходам, пешшу, цягніком.
На кантракты доўгія гадзіны
Вёз мяне заўсёды самалёт,
Многія пабачыў я краіны,
Да якіх мяне завёз пілот.
Лётаў я над Азіяй, Еўропай,
Лётаў я на Крым і на Каўказ,
Бачыў Арарат, дзе ў час патопу
З аркай Ной прысеў адзіны раз.
А цяпер я ціха і спакойна
Нікуды ў жыцці ўжо не спяшу,
Часта ў парк хаджу паходкай роўнай,
Часам дома вершы напішу.

## Я ЎСПАМІНАЮ СЁННЯ З ГОРКАЮ ЖУРБОЮ

Я ўспамінаю сёння з горкаю журбою
Былых сяброў, што іх няма  жывых,
Што не спаткаемся ніколі мы з сабою,
І не прыпомнім мы пражытых спраў сваіх.
Мы не прыпомнім  больш далёкай маладосці,
Як пехатой хадзілі ў школу да вайны,
Як нас калісь сяброўкі запрашалі ў госці,
Як елі ў іх са смакам свежыя бліны.
Мы не прыпомнім больш нямецкія налёты,
І як ляцела мноства бомб на цягнікі,
І як стралялі з самалётаў кулямёты,
Да нас і да салдатаў ля ракі.
Мы не прыпомнім, як калісьці ў Ленінградзе
Мы доўгі час спяшылі часта ў інстытут,
Як аглядалі  там салдааў на парадзе,
Калі ў паветры там адкрыўся парашут.
Не знаю. ці з маіх гадоў няволі
Яшчэ на свеце дзесь жывуць мае сабры,
Якіх там сустакаў я на нямецкім полі,
З якімі я праводзіў часта вечары.
Няма сяброў ужо з вайсковага шпіталя,
З якімі я ляжаў, а потым працаваў,
Няма сябровак тых, з якімі я на балях
Калісь дружыў і з імі танцаваў.
Шкадада мне ўсіх сяброў, якіх больш не пабачу,
Якія адышлі калісь ужо ў нябыт,
Шкада, што пражылі яны ў жыцыцці няўдачу,
І згінулі ў выпадку, ці знішчыў іх гастрыт.

## НЕ БАЧЫЛІСЯ ДОЎГА МЫ З ТАБОЮ

Не бачыліся дога мы з табою,
Нас лёс даўно па свеце разагнаў,
Калі цяпер сустрэўся я з табою,
Цябе па прывітанні не пазнаў.
Хоць твой твар пастарэў не вельмі многа,
Усмешка не змянілася зусім,
Спачатку не заўважыў я нічога,
Чаго не спадзяваўся перад тым.
Здзівіўся я, што моваю чужою,
З усмешкай ты віталася са мной,
Я роднай мовай гаварыў з табою,
А ты са мною моваю чужой.
Вучыліся калісь мы роднай мовы
У школе беларускай два гады,
І помню - вучаніцай паспяховай
Ты да канца між нас была тады.
Усе настаўнікі твды цябе хвалілі,
Выдатныя ацэнкі ставілі табе,
На роднай мове ўсе мы гаварылі,
Заўжды пашану чулі дя сябе.
Хаця ты многа родных слоў забыла,
Ты разумела ўсё, што я сказаў,
Саромішся пры мне сваіх памылак,
Саромішся, што я цябе пазнаў.
Таму гаворыш моваю чужою,
Якою карыстаешся цяпер,
Гаворыш ёй з усімі і са мною,
І ўжо ні з кім не зменіш свой намер.

## ГЛЯДЖУ Я НА СТАРЫ ПРЫГОЖЫ ЗДЫМАК

Гляджу я на стары прыгожы здымак,
Дзе я стаю вясёлы між сяброў,
За намі бачу я палац чароўны Крыма,
У бляску каляровых ліхтароў.
Сяброў я помню, бо тады я з імі
Хадзіў па Крыме ўсюды пехатой,
Дарожкамі пясчанымі крутымі,
Зарослымі высокаю травой.
Тады ў нагах усе мы мелі сілу
Увайсці спакойна на гару,
Нас доўгая дарога не таміла
Па Крыме і ў гарачую пару.
Мы мелі сілы, каб рабіць маршруты,
Па сцежках між палацаў і садоў,
Між вострых скал і дрэў густых, сагнутых,
Пад Ластаўкіна падысці гняздо.
Гасціла ,,Ялта” нас, гасцініца над морам,
З яе рабілі мы маршруты ў далячынь,
І з катэра мы аглядалі горы,
І праязджалі многа каляін.
Я вось пачуў, што ўсіх сяброў, што бачу,
Ніколі не сустрэну ўжо жывых,
Гляджу на здымак і амаль не плачу,
Што смерць ужо забрала ўсіх.
На здымку іх усіх прыпамінаю
І бачу іх жывымі, як у сне,
Як нешта мне яны апавядаюць...
Яны былі малодшымі ўсе за мяне.

## ДАЎНО НЯМА ЎЖО Ў ВЁСКАХ ЖНЕЙ

Я жаў сярпом яшчэ ў вайну,
Мне ён зрабіў на пальцу рану,
Нямецкі лекар заглянуў,
Забінтаваў яе старанна.
Яшчэ я добра помню жней,
Калі на полі жыта жалі,
Я чуў, як кожны серп звінеў,
І бачыў, як снапы вязалі.
Снапы у  мэндлік, стаяком
Там  ставілі ўсе на іржышчы,
А крылі кожнага адным  снапом,
Каб дождж  пад ім снапоў не знішчыў.
Пасля ўсе ў пуні іх вязлі,
Зімой цапамі малацілі,
Салому вельмі бераглі,
Бо ёю дахі ўсюды крылі.
Даўно няма ўжо ў вёсках жней,
Каб збожа жалі дзесь сярпамі,
Сярпы ўзялі даўно ў музей,
Ляжаць там з вострымі зубцамі.
Жней замяніў цяпе камбайн,
Ён жаць і малаціць сам можа,
Кажа: ,,Мяшкі мне падстаўляй!”,
І насыпае ў іх сам збожа.
З камбайна хваляю густой,
Ідзе ў цюкі памятая салома,
Жывёле толькі на падсціл,
Сяляне ёй не крыюць дома.

## БЛУКАЎ Я ЧАСТА ПА ПЛАНЕЦЕ

Блукаў я часта па планеце,
Аднак, дзе б я ў жыцці не быў,
Паміж люзей чужых на свеце,
Я роднай мовы не забыў.
Я не адрокся ад парога,
Дзе нарадзіўся я калісь,
Ад той зямлі, дзе жыў я ўбога,
Дзе прашчуры мае жылі.
Ад тых людзей, якіх шчасліва
Я ў роднай вёсцы сустракаў,
З якімі праз гады на ніве
Я цяжка разам працаваў.
Хоць лёс кідаў мяне ў чужыну,
Не забываў я родны край,
З няволі я знайшоў айчыну,
І пёк там людзям каравай.
І не адрокся я ад маткі,
Са мной да смерці дажыла,
Хоць ездзіў часта на пачатку
Я з ёй да роднага сяла.
Я не цураўся роднай мовы,
Хоць знаю некалькі другіх,
Я ёю гаварыць гатовы
Заўжды да ўсіх людзей жывых.
Пішу на ёй мае ўспаміны,
І верш на ёй я напішу,
Яе ў жыцці, як скарб адзіны,
Я пры душы сваёй нашу.

**МЯНЕ ШАКІРУЕ СТУДЭНТ**

Мяне шакіруе студэнт,
Які паціху робіць бомбу,
Кладзе яе паміж людзей,
Каб пакалечыць іх на пробу.
  А  нават іх забіць насмерць,
  Каб вынеслі ў шпіталь калекай,
  Ці ён тады хацеў глядзець
  На смерць і раны іх здалёку?
Мне вельмі цяжка зразумець,
Што між людзей жыве злачынец,
Які прыемнасць можа мець,
Каб забіваць людзей нявінных.
  Ён  чалавек- дэгенерат
  Жыве спакойна разам з намі,
  І злы глядзіць на ўсіх, як кат,
  Сваймі варожымі вачамі.
Ён хоча бачыць многа ран
У ўсіх жывых людзей навокал,
І цешыцца, як злы тыран,
Калі кроў з ран цячэ патокам.
  Сваю хваробу многа год
  Скрываў ён ад сваіх знаёмых,
  І вось цяпер пазнаў народ,
  Што планаваў ён пакрыёма.
І пажыццёвая турма
Яго чакае за няўдачу,
Хоць бомбы ўжо ў яго няма
І хоць не будзе ран і плачу.

## ШКАДА МНЕ ЎСІХ МАІХ СЯБРОЎ

Шкада мне ўсіх маіх сяброў,
Ляжаць, якія ўжо ў магілах,
Жыццё, з якімі, як арлоў
Мяне па свеце дзесь насіла.
Праехаў з нейкімі калісь
Машынай з Тузлы я Балканы,
Дуброўнік разам мы знайшлі,
Там з імі еў я баклажаны.
Заехаў з імі на гару,
Каб горад аглядзець і мора,
Там у зімовую пару
Цудоўна ззяла ўся прастора.
Пасля мы катэрам плылі
Наўкол Дуброўніка па моры,
На катэры віно пілі,
І кожны чуўся з нас бадзёрым.
Пасля мы крэпасць абышлі,
Усе адкрытыя касцёлы,
Царцву прыгожую знайшлі,
Аптэку для слабых і кволых.
Вярталіся мы праз Мастар,
Там прывіталі нас мячэці,
Басанскі вычварны базар,
Дзе гандлявалі нават дзеці.
А белы снег сустрэў усіх
Нас на сараеўскіх палянах...
Няма ўжо тых сяброў жывых,
З якімі бачыў я Балканы.

## Я Ў ЖЫЦЦІ НЕ ХАЦЕЎ БЫЦЬ БАГАТЫМ

Я ў жыцці не хацеў быць багатым,
Пільнаваць, каб не ўкралі казны,
І дрыжэць, каб мне злодзей заўзяты
Дзесь багацця майго не крануў.
І заўжды пры сабе мець ахову,
Каб яна пільнавала мяне,
Ад бандытаў, якія гатовы,
Дзесь мяне закапаць у труне.
Каб баяцца ў багатым палацы,
Што знаходзіцца вораг між слуг,
Што не будзеш бяспечны пры працы,
І не верыць, што нехта – твой друг.
Не хацеў я быць бедным таксама,
Як пражыў у няволі калісь,
Дзе не меў я пасцелі, піжамы,
І я спаў на зямлі ў шынялі.
Я прыгожую маю кватэру,
І галодны я ў ёй не сяджу,
Не турбуюся ўжо пра кар’еру,
І на свет на экране гляджу.
А раней я блукаў па планеце,
Заглянуў я калісь у Непал,
Танцаваў на індыйскім паркеце,
І хадзіў раз у Альпах між скал.
А цяпер я не маю ўжо сілы,
Каб у свеце багацця шукаць,
Не вазьму я яго да магілы,
Не хачу багачом паміраць.

## КАМУНІЗМ ПЕРАЖЫЎ Я СПАКОЙНА

Камунізм пражыў я спакойна,
Не пазнаў Варкуты, Калымы,
Іншых сталінскіх страшшных катоўняў,
І ў тайзе, як нявольнік, зімы.
Я ніколі не быў для Бяспекі
Супрацоўрікам тайным тады,
І не выдаў нікога на здзекі,
Ёй у бурныя нават гады.
І таго ад мяне не жадалі,
Я нікога з Бяспекі не знаў,
Да мяне не прыйшлі, не пыталі
Ці іх ворагаў я сустракаў.
За на фронце кантузію, рану,
За турботныя дні на вайне,
Да мяне ўлада мела пашану,
І ў жыцці памагла многа мне.
Памагла, каб рабіў я кар'еру:
Я вучыўся пяць год за Нявой,
Там атрымаў дыплом інжынера
І вярнуўся дамоў з ім зімой.
І атрымаў я працу ў сталіцы
І кватэру, каб мог мець сям'ю,
Працаваць я там мог і вучыцца.
Шанаваў я дзяржаву сваю.
Працаваў для яе я сумленна,
Энергетыку ёй будаваў,
Там дзе быў у той час я штодзённа,
Яе ворагаў не сустракаў.

## МНЕ СЁННЯ РАНКАМ ДЗІЎНЫ СОН ПРЫСНІЎСЯ

Мне сёння ранкам дзіўны сон прысніўся,
Што ў Белавежы я другі ўжо раз,
Сам у палацы царскім заблудзіўся,
Блукаў там па пакоях між прыгожых ваз.
Прыпамінаў усё, што бачыў там, як школьнік,
Калі ў палац нас вучняў прывязлі,
І аглядалі мы тады супольна,
Яго пакоі, ўсё што ў іх было калісь.
Яго паркеты, вазы, жырандолі,
І абразы на сценах мастакоў,
Як дзверы люстры, кветкі з наваколля,
На сценах рогі розныя звяроў.
Я сам адзін блукаў па ўсім палацы,
І мучыўся, што выйсці не магу,
Я быццам бы спяшыўся дзесь да працы,
Не ведаў, дзе паставіць меў нагу.
І з роспачы я абудзіўся хутка,
І ўцешыўся, што згінуў мне палац,
Шкада палаца стала цераз суткі,
Бо ўжо па ім застаўся толькі пляц.
Бо больш яго не ўбачу я ніколі,
Нямецкі акупант яго спаліў,
Не мелі ўлады да руін патолі,
І пуста стала, дзе калісь ён быў.
Палац пабачым мы на старых здымках,
Зрабілі іх і знізу, і згары,
На здымку сцены ўбачым і будынак,
Яго багацця не пабачым унутры.

## ВОДГУКІ *З* ПАДЛЯШША

### ПУСТАЯ ХАТА *Ў* СЯЛЕ

Навокал старэнькіх сцен хаты,
Паблізу малога сяла
У сонцы блішчаць, як дукаты,
Шыпшынніка кветкі здаля.
    Глядзяць яны з сумам у вокны,
    І бачаць праёмы без шыб,
    Якія заўжды ў ліўнях мокнуць,
    І ўжо паявіўся там грыб.
Глядзяць на гнілую падлогу,
На чорную мэблю ўнутры,
На цёмны дыван ля парога,
На цень павуціння ўгары.
    Нядаўна яшчэ ў гэтай хаце
    Сям'я маладая жыла,..
    Пайшла ў свет шукаць дзесь багацця
    З свайго на Падляшшы сяла.
А хату абняўшы, шыпшына
У сонцы іскрыцца ля сцен,
Вясёлкаю кветак- рубінаў
Чаруе сялян кожны дзень.
    Палаюць, як свечкі, навокал,
    Іх кветкі ў зялёных вянках,
    На тонкіх галінах высокіх,
    Бы нехта трымае ў руках.
Прахожым здаецца, што ў хаце
Багатыя людзі жывуць,
Як дзесь у прыгожым палацы.
Баяцца туды заглянуць.

## ХОЦЬ ВЕЛЬМІ НАС АСЛАБІЛІ СТЫХІІ

Хоць вельмі нас аслабілі стыхіі:
Час бежанства і міжваенны час,
Хоць арміі нас нішчылі чужыя,
Хоць выганялі на чужыну нас.
Пасля яшчэ палілі нашы хаты,
Хлявы і клуні, ў клунях ураджай
Варожыя ,,праклятыя салдаты”,
Нас мардавалі, выганялі ,,ў рай”.
А людзі, перажыўшыя разбоі,
Адбудавалі многа вёсак, сёл,
І сем’і закладалі і ў спакоі,
Стараліся дзяцей паслаць да школ.
Гучала мова родная па сёлах,
Таварыства стварылі мы сваё,
Звінелі песні родныя наўкола,
Яны плылі шырокім ручаём.
Дайшлі да вёсак родныя газеты,
За імі кнігі і календары,
І вершы беларускія паэты
Чыталі ім і днём, і ў вечары.
Загінуў страх па ўсіх ваенных дзеях,
Вучыцца моладзь стала ў гарадах,
Тады ў сялян з’явілася надзея,
Што згіне ўсюды голад і бяда,
Тады не зналі людзі беспрацоўя,
Не багацелі, скромна ўсе жылі,
Не галадалі, дбалі аб здароўе,
Ды захацелі лепш жыць на зямлі...

## ПАЖАДАННЯ І СОННЫЯ МАРЫ

### ХАЦЕЎ БЫ

Хацеў бы, каб мая айчына
Была шчаслівай, без пагроз,
Хацеў бы, каб уся краіна
Цвіла без смутку і без слёз.
Хацеў бы я, каб грамадзяне
Яе не ведалі бяды,
У вёсках, каб яе сяляне
Жывёлу мелі і сады.
Каб людзі голаду не зналі,
Каб іх не страшыў ураган,
І каб віхуры іх міналі,
А летам сушы ўсіх сялян.
Жадаю я, каб ураджаі
Былі ў краіне кожны год,
Каб людзі елі караваі
І каб заможны быў народ.
І каб у ёй усе жанчыны
Радзілі з радасцю дзяцей,
Каб з кожным годам у краіне
Жыло ўсё больш і больш людзей.
Хацеў бы я, каб гаварылі
На роднай мове ўсе наўкол,
Сваіх дзяцей яе вучылі,
І кіравалі з ёй да школ.
Каб ад марозу не ўміралі,
Чакалі сытыя вясны,
Каб грамадзяне ў ёй не зналі
Ран ад тэрактаў і вайны.

## ВА СНЕ Я БАЧЫЎ РАЙ

Ва сне я сёння бачыў рай,
Сады і сотні душ навокал,
Журчаў пры іх малы ручай,
Анёл там лётаў, быццам сокал.
    Не чулі душы там  згрызот,
    Не грызла іх зусім сумленне,
    І не баяліся турбот,
    Ні злодзеяў, ні аграблення.
Іх не пужаў пыл гарадоў,
Спякота, дождж, завеі, холад,
Не зналі лекаў, дактароў,
Забылі, што такое голад.
    Жылі яны ўсе без праблем,
    Не бударажыла іх слава
    Не зналі ніякіх дылем,
    Бо іх не мучыла цікавасць.
Не ведалі яны хвароб,
Не адчувалі ран душэўных,
Не мелі цягі да аздоб,
Ні да былых сяброў і крэўных.
    Забылі душы аб бядзе,
    Якую пражылі калісьці,
    Цяпер не бачыў там нідзе
    Пачуццяў злосці і карысці.
Затрымаўся там іхні час,
Жыццё плыло там манатонна…
Будзільнік грымнуў, як фугас
І я прачнуўся ледзь прытомны.

## НЕ ТУЖЫ!

Чаму ты тужыш, малады юнак
Пасля зімы пры сонечнай пагодзе?
Чаму не цешышся, што ўжо вясна,
Што зацвілі ўсе кветкі ў агародзе?
Зазелянелі дрэвы, а сады
Бялеюць яркім вэлюмам пялёсткаў,
І цешацца вясною гарады,
Твае сябры, твая паблізу вёска.
Шчабечуць птушкі розныя наўкол,
Цурчыць ручай з празрыстаю вадою,
Гуляюць дзеці з крыкам у футбол,
Смяецца луг травою маладою.
Расталі снег і лёд ужо даўно,
Сухія сталі ўсе наўкол дарогі,
Мяцеліца не сыпле за акном,
Буран не робіць між людзей трывогі.
Пакуль цяпло, ідзі ты да сяброў
І цешся з імі цёплаю вясною,
Пабачыш з імі пекных матылькоў,
Як лётаюць на лузе, над ракою.
Яны не тужаць, бавяцца заўжды,
Купаюцца ўсе ў сонечных праменнях,
Не чуюць смутку, гора і нуды,
А толькі радасць і задавальненне.
І не тужы больш, малады юнак,
І не сумуй пры сонечнай пагодзе,
І радуйся, што ўжо прыйшла вясна,
І бачыш кветак многа ў агародзе.

**ХАЧУ, КАБ У МАЁЙ КРАІНЕ**

Хачу, каб у маёй краіне
Не адчувалі людзі зла,
Адданымі былі айчыне,
Каб зло ў ёй знішчылі датла.
Каб людзі чуліся сябрамі,
Заўсёды слабым памаглі,
Шукалі іх не за гарамі,
А блізка на сваёй зямлі.
Хачу, каб у краіне ўлады
Былі прыязны да людзей,
Каб не стыдзіліся спагады
Да тых, хто чуецца слабей.
Каб большую свабоду слова
Адчулі людзі ўсе наўкол,
Каб родная гучала мова
Усюды і ўвайшла да школ.
І каб не мучылі падаткі
Ва ўсёй краіне грамадзян,
Каб не ўцякалі без аглядкі
Яны штогод за акіян.
Хачу я, каб мая краіна
Не знала войнаў і бяды,
Каб расцвіталі штохвіліна
Яе ўсе вёскі, гарады.
Хачу каб у краіне ўлады
Любілі грамадзян сваіх...
Хачу каб прыкладам ураду
Была краіна для другіх.

## ПАСТАРАЙСЯ

Пастарайся заўсёды спакойна,
Сустракаючы часта варожасць,
Калі чуеш а бомбах і войнах,
Бачыць толькі у свеце прыгожасць.
    Бачыць толькі красу ўсей прыроды,
    І  цудоўныя колеры кветак,
    І падчас сонечнай летняй пагоды,
    Чуць прыемныя шчэбеты дзетак.
Не звяртаць, пастарайся ўжо ўвагі
На суседаў насмешкі, паклёпы,
Не злавацца на іх мей адвагу,
І   прабачыць ім іх недахопы.
    Пастарайся паслухаць са смехам
    Кандыдатаў да ўлад абяцання,
    І ў час выбараў, толькі з уцехай
    Спагляглядаць дзесь на іх на экране.
Пастарайся не траціць спакою,
Як дзесь чуеш палітыкаў віскі,
Калі маеш діця пад рукою,
Не ўцякай цэраз іх ад калыскі.
    Пастарайся забыць, калі можаш,
    У жыцці тваім злыя ўспаміны,
    Не забудзь пра свае падарожжа
    І якія ты бачыў краіны.
Да сяброў пастарайся быць чуткім,
У бядзе памагай ім заўсёды,
І забыць пастарайся ўсе смуткі,
Перажытыя злыя прыгоды.

## ВОДГУКІ ЗАГАНАЎ ЖЫЦЦЯ

### ПАЛІТЫКІ ХАРЫЗМАТЫКІ

Аб харызме пачуем мы многа
За сцяною царкоўных дзвярэй,
Аб таемным гасцінцу ад Бога
Сіле боскай у нейкіх людзей.
Яе мелі святыя пракокі,
Прапаведнікі боскіх навук,
Рой прыхільнікаў мелі навокал,
Або гінулі дзесьці ад мук.
Мы цяпер харызматыкаў маем
Між палітыкаў:летам, зімой,
Што нам рай на зямлі абяцаюць,
Калі ім толькі ўладу дамо.
Нас чаруюць прыгожаю мовай,
Ап’яняюючай, быццам дурман,
Не шукаюць за пазухай слова,
Словы льюцца з іх губ, як фантан.
І наіўныя людзі ім вераць,
Галасуюць на іх чарадой,
Памагаюць зраабіць ім кар’еру,
Ім уладу даюць над сабой.
Калі схопяць палітыкі ўладу,
Ад наіўных яны пакрысе
Адвярнуцца І нават з пагардай
Ім адкажуць на закіды ўсе.
Абяцанкі яны ўсе забудуць,
Толькі ўспомняць яны іх тады,
Калі новыя выбары будуць,
Каб наіўных знайсці чарады.

**КЛАКЁРЫ**

Калісьці прасілі клакёраў
У ладкі ў тэатры пляскаць,
Каб славіць там нейкіх акцёраў,
Ці ганьбіць - і іх абсвістаць.
　　За гучныя воплескі, свісты
　　Плылі ганарары для іх,
　　Тых першых любілі артысты,
　　Баяліся вельмі другіх.
Цяпер часта чуем клакёраў
На сходах пры выбары ўлад,
Гудзяць, як у цэхах маторы,
Іх словы ляцяць, быццам град.
　　Скандзіруюць прозвішча гучна
　　Свайго кадыдата штораз,
　　Далоньмі б’юць воплескі зручна,
　　Папаўшы ў сумарны экстаз.
Не ведаю ці кандыдаты
Заплацяць клакёрам за крык,
Ці пойдуць без грошаў дахаты,
Схаваўшы глыбока язык.
　　На іх я гляджу з абурэннем,
　　І іх зразумець не магу,
　　Што, можна ўсе крыкі, вітанне
　　За грошы купіць, на вуглу.
Што можна ўсе воплескі, свісты
Купіць за грашовы бакнот,
Што можна спаганіць артыстаў,
За грошы ўсадзіць іх за дрот.

## МНОГА ЧУЕМ НАВОКАЛ ВАРОЖАЙ ХЛУСНІ

Многа чуем навокал варожай хлусні
Ад дзяржаўных палітыкаў нейкіх народаў,
Ачарняюць палітыкаў іншых яны,
Бо баяцца на свеце спакою і згоды.
Бо нязгода на свеце,то сэнс іх жыцця,
І ў дзяржаве дае ім кар’еру і ўладу,
І ўсю годнасць уласнага іх пачуцця,
І пагоны ў вайне, на вайскьовых парадах.
Гарланяняць пры падрымцы васалаў сваіх,
Аб пагрозе, якую стварыць ім дзесь могуць,
У агрэсіі ўміг вінавацяць другіх,
Калі вышлюць камусці салдат на падмогу.
Давялі да таго, што Кадафі, Гусейн,
Як дыктатары згінулі  ў вычварных чыстках,
І ірак, потым Лівію, быццам  струмень,
Залівацць сталі хутка наўкол джыхадысты.
Бо варожай палітыкай, бруднай вайной
Нарадзілі яны джыхадыстаў навокал,
І іх знішчыць не можа ўжо бомб градабой,
З авіацыі іх, што лятае высока.
Джыхадысты да іх высылаюць не раз
Тэрарыстаў-наймитаў з шалёных кантрактаў
І мы чуем, як гінуць там людзі  штораз,
Ад нажа і ад куль, ад смяротных тэрактаў.
Ад памылак палітыкаў церпіць народ,
Уміраюць ад куль іх нявінныя людзі,
Джыхадысты, мы бачым, мацнеюць штогод,
А  палітыкі толькі хлусцяць і марудзяць.

## НЯНАВІСЦЬ І ВАРОЖАСЦЬ

Калі ўключаю інтэрнэт,
Чытаю ,,Весткі” асцярожна,
Бо бачу, як наш цэлы свет
Грызе нянавісць і варожасць.
Яе я ў нашых бачу ўлад,
І за парламента сцяною,
Чую, як страшыць наш урад
Праціўнікаў сваіх турмою.
Аб смерці  чую я  штодзень
Як людзі  гінуць у тэрактах,
Нянавісць ходзіць быццам  цень
Ахвяр шукае дзесь на трактах.
Нянавісьць грозную нясе
Да нас Ісламская Дзяржава,
Яе варожасці пасеў
Прыносіць ураджай крывавы.
Яго пазналі ўжо даўно,
Усе арабскія шыіты,
Іх сотні згінула сыноў
Ад бомб смяротнікаў- бандытаў.
Нявінных многа хрысціян
Рой джыхадысткіх куляў ліжа,
Да іх прыйшла смерць у Ліван,
Знайшла ў Тунісе і ў Парыжы.
І бомбу ў рускі самалёт
Ісламская ўватнула зграя,
Каб пасажыры і пілот
Загінулі ўсе над Сінаем.

**ВАРОЖАСЦЬ**

На свет спаглядаю я часта са страхам,
Бо многа варожасці ў ім ачагоў,
Кіпяць яны моцна, пужаюць нас жахам
Вайны і няшчасця між нашых дамоў.
Нагналі ў Еўропу яны эмігрантаў,
Мільёны з’явіліся ў ёй мусульман,
Між іх джыхадастаў і гурт дыверсантаў,
Прыехаўшых там мардаваць хрысціян.
Кіруюць туды іх з Ісламскай Дзяржавы,
За бомбы, якія спадаюць на іх,
Бо хочуць адпомсціць тэрактам крывавым
За многа ў нелётах ахвяр нежывых.
Варожасць пануе між туркаў і курдаў,
Бо курды не маюць дзяржавы сваёй,
Варожасць даходзіць у іх да абсурду,
Калі супраць курдаў ідуць туркі ў бой.
Варожасць грызе многа год Палестыну,
Ізраіль гняце палестынскі народ,
Мы чуем што там штодзень людзі гінуць,
І колькасць ахвяр там расце кожны год.
Шугае варожасць па ўсёй Украіне,
Да згоды не могуць дайсці між сабой,
Там вельмі іх многа ў міжусобіцах гіне,
Там моляцца людзі ўвесь час за спакой.
Варожасць усюды стварае ахвяры,
Прыносіць нашчасце і смерць для людзей.
Ёй цешацца толькі адны янычары,
Калі дзесь мардуюць жанчын і дзяцей.

## СМЕРЦЬ КОСІЦЬ СМЯРОТНАЙ КАСОЮ

Смерць косіць смяротнай касою
Людзей, як касец дзесь траву,
Шукае ахвяр і разбою
Усюды, дзе людзі жывуць.
І бачу варожасць навокал
Між розных дзяржаў і людзей,
Кроў льецца на войнах патокам,
На Блізкім Усходзе часцей.
Там чую, як бомбы, снарады
Ляцяць на жанчын і дзяцей,
Злачынцы не маюць спагады,
Няма на іх кары, суддзей.
І побач штодзень у  тэрактах
Смерць ловіць дзесяткі ахвяр:
Адных дзесь на шляхах, на трактах,
Другіх забівае пажар.
А іншых бяруць ураганы,
Паводкі, пажары лясоў,
Злачынцы наносяць ім раны,
Нас страшыць навокал жах, кроў.
Аднак у тым жудасным свеце
Не хочацца нам паміраць,
Жанчыны штодзень родзяць дзеці,
І хочам на іх працаваць.
І кожны з нас доўга жыць хоча,
Жыццём захапляцца ўвесь час,
Хоць бачаць заўжды нашы вочы
Няшчасце, бяду вакол нас.

**ЗЛАЧЫНСТВА ІСЛАМСКАЙ ДЗЯРЖАВЫ**
**ДЗЕНЬ ДЖЫХАДЫСЦКІХ ТЭРАКТАЎ**

У чэрвеньскі прыемны летні дзень,
Калі ўжо сонца рэяла ў зеніце,
Прыйшла з Ліёну вестка, як струмень,
Аб грозным і безлітасным бандыце.
Забіў там джыхадыст кіраўніка
И з галавой забітай ім ахвяры
Да фабрыкі заехаў, рызыкант,
Да выбуху давёў там, да пажару.
Другая вестка пачала звінець
Яшчэ гучней, чым у аркестры флейта:
З людзьмі ўзарваў шыіцкую мячэць
Якісь смяротнік джыхадыст з Кувейта.
Ён згінуў сам і згінулі там з ім
Ад выбуху аж дваццаць тры шыіты,
І сотню раненых знайшлі прытым,
Выносячы з мячэці ўсіх забітых.
І раптам новы прыляцеў сюрпрыз
З паўночнай Афрыкі дзесь з пляжТуніса,
Там застраліў ісламскі тэрарыст
Аж трыдцаць дзевяць маладых турыстаў.
На пляж прынёс ён аўтамат, а не Каран
І, ўзяўшы яго ў рукі праз хвіліну,
З яго страляў да немцаў, англічан,
Забіў адну расійскую жанчыну.
Каго забіць, ён ціха выбіраў
На пляжы з аўтаматам пры кашулі,
Хто спадабаўся, да таго страляў,
Аж згінуў сам ад паліцэйскай кулі.

## ФАНАТЫКІ ІСЛАМСКАЙ ДЗЯРЖАВЫ

Фанатыкі ісламa з Афрыкі, з Еўропы,
З хваробай помсты да шыітаў, хрысціян,
Спяшаць іх мардаваць не на вайне ў акопах,
На вуліцы ў тэрактах для славы  мусульман.
Хвароба фанатызму ўсім ім адабрала
Любоў да чалавека, да яго жыцця,
У душы прышчапіла ім забойцаў джала,
З іх робатаў стварыла ўсіх без пачуцця.
Яны ўсе цешацца, аглядваючы мукі
Зададзеныя іншаверцу іх рукой,
Калі крывей чужой свае забрудзяць рукі,
Калі людская кроў плыве пры іх ракой.
З ахвотаю яны крадуць у матак дзеці,
Каб выхаваць дзесь іх на верных мусульман,
І гвалцяь матак іх, вязуць іх да мячэцяў,
Каб, як нявольніцы, там славілі Каран.
Смяротнікі з ахвотай самі паміраюць,
Калі дзесь іншаверцам падрыхтуюць смерць,
І вераць, што іх душы пападуць да раю,
І кожная жыць будзе там , як мільянер.
І ганарацца тым, што згінуць разам з імі
Жанчыны і іх дзеці, многа юнакоў,
Не хочуць, каб яны засталіся жывымі,
І вераць, што не будзе ў раю чужакоў.
Зрабілі з іх фанатыкаў –дэгенератаў,
Якія страцілі сумленне і любоў,
Як робатаў іх высылаюць да тэрактаў,
Каб згінулі і паплыла людская кроў.

## ЗНОЎ ПЛАЧА ПАРЫЖ

Пачалі джыхадысты ў Парыжы вайну,
І Парыж застагнаў ад смяротных ахвяр.
А Дзяржава Ісламская потым віну
Узяла на сябе за крывавы удар.
    Тэрарысты іслама вячэрняй парой
    Мардавалі ў Парыжы нявінных людзей,
    І забілі, страляючы з зброі ручной
    Больш чым сотню мужчын і жанчын, і дзяцей.
Спачування не мелі яны да ахвяр,
З захапленнем глядзелі на раны і смерць,
Не пужала іх кроў, пляч і стогнаў кашмар,
Бо з іх кожны тады быў страшнейшы чым звер.
    Джыхадысты, як робаты, без спагады
    Навучыліся гінуць і ўсіх мардаваць,
    У Ісламскай Дзяржаве з мужчын маладых
    Янычараў стварылі пакорную раць.
Як смяротнікі з бомбамі гінуць яны,
Забіваюць пры гэтым дзесяткі асоб,
Ці ідуць мардаваць дзесь людзей без віны,
І ўміраюць ад куль і ў тэрактах ад бомб.
    І такіх джыхадыстаў паслалі ў Парыж,
    Каб яны з аўтаматамі ў подлых руках
    Мардавалі людзей маладых і старых
    І прынеслі ва Францыю слёзы і страх.
У Ісламскай Дзяржаве пачулі, як тромб,
За тэракты ў Парыжы, за сотні ахвяр,
З самалётаў французскіх грамы сотні бомб
Якія ім з неба наносяць удар.

## СМЯРОТНіК З ПОЯСАМ ШАХіДА

Смяротнік з поясам шахіда
Стаў зброяй дзікай мусульман,
Ён забівае без абіды
Нявінных многа грамадзян.
З страфой завучанай з Карана
З шахіда поясам ідзе,
Каб згінуць і яму нязнаных
Дзесь мардаваць жывых людзей.
Там могуць быць і мусульмане,
Паміж забітых ім ахвяр,
З якімі згінуў у дурмане
Ён сам, калі нанёс удар.
Яму ўнушылі, што за веру
Ён згіне і за мусульман,
А згіне толькі за кар'еру
Наслаўшых на яго дурман.
Паверыў ён, што ўміг па смерці
Душа яго ў рай пападзе.
Ахвяр забітых возьмуць чэрці,
Іх не забачыць ён нідзе.
І чую, многа ёсць смяротніц.
Між адурманеных жанчын,
Якія ўжо забілі сотні
Ахвяр праз свой ганебны чын.
Замест таго, каб жыць спакойна,
Радзіць, выхоўваць гурт дзяцей,
Ідуць на смерць, як дзесь на войнах,
Мардуючы другіх людзей.

# ЗМЕСТ

## ВОДГУКІ ПРЫРОДЫ

**ВОДГУКІ З МІНУЛАГА**

